Памяці...



АЛЬ-КІТАБ

# БАЙРАМ

**КВАРТАЛЬНІК БЕЛАРУСКАГА ЗГУРТАВАННЯ ТАТАРАЎ-МУСУЛЬМАН "АЛЬ-КІТАБ"**

**1998 ВЫПУСК 3**

Выдадзены коштам
Дзяржаўнага камітэта
па справах рэлігій і нацыянальнасцей
Рэспублікі Беларусь

Рэдакцыя выказвае шчырую падзяку
віцэ-старшыні Беларускага інстытута
навукі і мастацтва ў Нью-Йорку (ЗША)
доктару Янку ЗАПРУДНІКУ
за матэрыяльную дапамогу
ў выданні гэтага нумара квартальніка

بسم الله الرّحمن الرّحيم

## У імя Аллага Міласцівага, Міласэрнага !

*Салям алейкум, спадары і спадарыні,*
*супляменнікі-татары, усе мусульмане!*

14 верасня 1998 г. у Мінску памёр мусульманін, якога ведалі многія нашы супляменнікі. Гэта член Праўлення Беларускага згуртавання татараў-мусульман “Аль-Кітаб”, ініцыятар стварэння і галоўны рэдактар квартальніка “Байрам” Якуб Адамавіч Якубоўскі. Рэдакцыя квартальніка “Байрам”, уся татарская грамадскасць панеслі велізарную, незаменную страту.

Якуб Якубоўскі быў сярод тых першапачынальнікаў, хто ў 1989 годзе стаяў ля вытокаў першай у гісторыі Беларусі татар-скай арганізацыі — Згуртавання “Аль-Кітаб”. Усё яго жыццё — гэта няпросты і нялёгкі шлях, што вымяраецца адданай працай на карысць Беларусі, на карысць свайго народа, носьбітам лепшых рыс якога з'яўляўся Якуб Якубоўскі. І нездарма яму аднаму з першых сярод беларускіх татар у 1976 годзе было прысвоена ганаровае званне лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР. Амаль восем гадоў (1991–1998) ён быў нязменным галоўным рэдактарам квартальніка “Байрам” — органа Беларускага згуртавання татараў-мусульман “Аль-Кітаб”. Якуб Якубоўскі — аўтар слоў гімна беларускіх татар “Мы з Іманам жывем на зямлі Беларусі”, музыка да якога створана была спачатку Алегам Гембіцкім, а пасля — Дзінарай Мазітавай. Гімн на музыку юнай Дзінары Мазітавай быў выкананы ў час святочнага пасяджэння ў 600-годдзе аселасці татараў на землях Беларусі.

Гэты нумар часопіса “Байрам” прысвячаецца светлай памяці Якуба Адамавіча Якубоўскага. Невялікі знак нашай бясконцай удзячнасці за яго зямное жыццё, за яго неацэнную працу. Наш нізкі паклон за тую місію, якую ён выконваў шэсць апошніх гадоў, поўных спраў і клопатаў. Усяго восем гадоў, а за імі дваццаць сем квартальнікаў. Кожны нумар часопіса — маленькае жыццё, кожны нумар — здабытак! Усё — праз сэрца!

Усё — як у апошні раз! Рэдакцыйная калегія з 3–5 чалавек і заўсёды ён — нязменны галоўны рэдактар. Аб размеркаванні абавязкаў, як і аб матэрыяльным заахвочванні не магло быць і размовы. Іх проста не існавала. Што браў на сябе галоўны рэдактар, вядома толькі самым блізкім. Але ведаць усё пра такога чалавека, як Якуб Адамавіч, амаль што немагчыма. Хто можа назваць усё прачытанае ім, падлічыць колькасць занатаванага і тое, што захоўвала памяць? А тое, што нават і не падлягала ўліку: тэлефонныя размовы, размовы пры сустрэчах, а таксама сустрэчы па дамове ў любы зручны для другога чалавека час і ў любым названым ім месцы ў памяшканнях і на вуліцах Мінска, і не толькі Мінска? Чым вымяраць яго думкі, мроі, недаспаныя ночы? А колькі дзён і гадоў папярэдняй працы над сабой спатрэбілася дзеля таго, каб у першы ж дзень заслужанага афіцыйнага адпачынку прыняцца за новую, Галоўную справу свайго жыцця? Яго энцыклапедычныя веды, яго багаты вопыт зрабілі магчымым выданне квартальніка "Байрам". Татары Беларусі першымі сярод нацыянальных меншасцей атрымалі свой часопіс. Мы памятаем той першы, дарагі ўсім нам нумар. Нумар, які не быў спецыяльна запланаваны адпаведнымі інстанцыямі: ён быў у асабістых планах Якуба Адамавіча. Нумар, які не атрымаў спецыяльнага фінансавання: яно адбывалася дзякуючы ахвяраванням, і так да апошняга нумара. Шляхі пракладзены. Добрае імя створана. Многае вызначана далёка наперад. Просім Аллаха дапамагчы нам, яго пераемнікам, не страціць гэтыя набыткі і даць моцы для працягу пачатай справы на карысць свайму народу. Да той пары, пакуль мы будзем жыць і працаваць над часопісам, Якуб Адамавіч будзе з намі, ён так і застанецца галоўным рэдактарам квартальніка "Байрам".

**"О Аллаһ! Ператвары страту Яго для нас у заклад. Даруй яму за нас узнагароду і скарб. Зрабі яго просьбітам за нас і заступнікам нашым. О Найміласэрнейшы з міласэрных, дай нам Тваё спачуванне".**

Дай Аллах яму Рай светлы!

**Рэдакцыя квартальніка "Байрам".**

## ЧОРНАЯ ВЕСТКА

Як абухом па галаве. Чорная вестка. Ня стала Якава, сына Адамавага, Якубоўскага.

Ня стала, каб няставаць нам ягонае мудрасьці, ягонае ўсёдапытнасьці, ягонае дабрыні й любові да ўсяго роднага, вечнага, наскага.

Спадар Якаў любіў свой народ, бескарысьліва слугаваў яму. Як сьвятую ваду ў прыгаршчах, нёс мову й веру продкаў сваіх. Множыў славу сумленнага, мужнага, працавітага татарскага народу. Асьветлены ведамі, супроцьстаяў цемрашальству ўсіх масьцей.

Мала хто зь беларусаў гэтак шанаваў, гэтак энцыклапэдычна ведаў Беларусь.

У татарына Якава Якубоўскага бальшыні беларусаў трэба было вучыцца беларушчыне.

У Беларусі ня стала яшчэ аднаго ўлюбёнага сына.

У мяне ня стала панавітага брата.

Хілю сваю сівую галаву перад сьветлай памяцьцю нястомнага спадзьвіжніка й асьветніка, рупліўца на духоўнае ніве Якава, сына Адамавага, Якубоўскага.

Хай будзе лёгкім табе беларускі пясок, мой татарскі браце!

**Рыгор Барадулін.**



## БЕЛАРУСКІЯ ТАТАРЫ

***Якаву, сыну Адамаваму, Якубоўскаму***

На Беларусь нашэсьце вашае
Вітаю,
Мірныя татары!
Вы дбалі —
Будавалі, важылі,
Аблокаў пасьвілі атары.

Былі гароднікамі ўпартымі,
Кажушнікамі, макалямі,
Прэч гора адганялі жартамі,
Кулямі смутак затулялі.

Вы засланяліся правіцаю
Кайданьнікамі на этапах,
Вы мову зьберaглі крывіцкую
І ў сэрцах вашых,
І ў Кітабах.

Пытаньне ўсім на вуха дыхае:
Каму зашкодзілі,
Скажэце,
Татарскія магілы ціхія,
Маладзічковыя мячэці?

Хапіла ж нашым мовам
Сьмеласці,
Сыйшоўшыся, ня разгубіцца
А ў маладой паразумеласьці,
Як дзьвюм крыніцам,
Сьветла біцца.

На Шчары, Нарачы, на Сьвіцязі
Схаўрусіць хай
З салам алей кум.
Татары!
Множцеся й пладзіцеся,
Вы нашыя.
Салям алейкум!

**Рыгор Барадулін**

***

# САЛЯМ! ЧАЛОМ!

*Да 600-годзьдзя з нагоды татарскага асадніцтва на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага*

Над небам мячэці маладзічок
Займаецца колькі стагодзьдзяў,
Нібыта адкінуты ўздыхам
Кручок
Зь дзьвярэй,
Каб блуканец заходзіў
У храм,
Дзе яго падпярэжа Алах
З Карана суровай сурою.
Блуканец імя сваё
Знойдзе ў імглах
І ўмые зарою сырою.
І роспач сьляпая
Захоча вачэць,
І сподзеў ня ўпусціць свой шанец.
І будзе пакутна
Глядзець на мячэць
Апошні крывіцкі паганец...

**Рыгор Барадулін.**

***

# ПАМЯЦІ БРАТА

## У імя Аллаhа Міласцівага, Міласэрнага!

Уся хвала належыць Аллаhу, Гаспадару Сусвету, Міласціваму, Міласэрнаму, Валадару Суднага дня. Табе аднаму мы пакланяемся, і Цябе аднаго мы молім аб дапамозе. Накіруй нас на шлях праўдзівы. Шлях тых, каго Ты адарыў Сваім дабром, тых, хто не наклікаў на сябе Тваей няміласці, і тых, хто не заблудзіў. Нашы малітвы і бласлаўленне прароку Мухаммеду, яго сям'і і яго прыхільнікам.

Мір Вам, міласць Аллаhа Усявышняга і Яго бласлаўленне!

Беларускае згуртаванне татараў-мусульман "Аль-Кітаб" і Мусульманскае рэлігійнае аб'яднанне ў Рэспубліцы Беларусь з вялікім сумам і жалем даводзіць да ведама нашых татараў-мусульман вестку аб смерці члена Праўлення Згуртавання "Аль-Кітаб", галоўнага рэдактара квартальніка "Байрам" Якуба Адамавіча Якубоўскага (Алейгі салям! Няхай Аллаh Усявышні будзе міласцівы да яго!).

Не стала выдатнага чалавека, Чалавека з вялікай літары. Якуб Якубоўскі нарадзіўся 20 красавіка 1932 г. ў вёсцы Камаі Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці. Ён нарадзіўся ў сям'і паважаных і працавітых людзей. Яго бацькам быў Адам Мустафавіч, а маці — Раіса Хасенеўна Якубоўскія.

У 1950 г., пасля заканчэння сярэдняй школы ў г.п. Відзы Браслаўскага раёна Якуб Адамавіч пачаў працаваць настаўнікам пачатковай школы ў гэтым жа раёне. У 1955 г. ён скончыў Мінскі настаўніцкі інстытут па спецыяльнасці гісторыя. Крыху пазней ён павысіў сваю гістарычную адукацыю, закончыўшы гістарычны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута. У 1962 г. Якуб Якубоўскі атрымаў вышэйшую адукацыю па спецыяльнасці геаграфія ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, а ў 1989 г. — па спецыяльнасці беларуская мова і літаратура ў Мінскім педагагічным інстытуце. Працаваў у інстытуце глебазнаўства (1962–1967) і ў выдавецтве "Беларуская энцыклапедыя" імя Пятруся Броўкі загадчыкам рэдакцыі геаграфіі і геалогіі. Пры яго ўдзеле былі створаны наступныя энцыклапе-



*Настаўнік Я.А. Якубоўскі*

дычныя выданні: "Беларуская Савецкая Энцыклапедыя" (у 12-ці тамах), "Энцыклапедыя прыроды Беларусі" (у 5-ці тамах), "Беларуская ССР. Кароткая энцыклапедыя" (у 5-ці тамах, на беларускай і рускай мовах), аднатомнік "Прырода Беларусі", энцыклапедычныя даведнікі пра абласныя цэнтры, "Блакітная кніга Беларусі" ды іншыя. Шматгадовая праца Я. Якубоўскага адзначана трыма граматамі Вярхоўнага Савета БССР. За выданне 12-томнай "Беларускай Савецкай Энцыклапедыі" ў 1976 г. яму было прысвоена званне лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР.

Чалавек энцыклапедычных ведаў — лінгвіст, гісторык, культуролаг, географ, біёлаг, Я. Якубоўскі ў канцы 80-х гадоў стаяў ля вытокаў беларускага і татарскага адраджэння. Ён добра разумеў, што без адраджэння беларусаў немагчыма вырашыць і праблемы беларускіх татар. Якуб Якубоўскі ў 1991 г. арганізаваў выпуск на беларускай мове першага друкаванага выдання беларускіх татар — квартальнік "Байрам" і быў галоўным рэдактарам яго першых 27 нумароў. На працягу апошніх 6 гадоў Якуб Адамавіч вёў тытанічную працу па стварэнні ўнікальнай энцыклапедыі "Татары Беларусі, Літвы і Польшчы", склаў рэестр на 30.000 энцыклапедычных артыкулаў, прысвечаных разнастайным аспектам жыцця татараў-мусульман сярод прадстаўнікоў іншых культур і канфесій. Ім жа напісана ці падрыхтавана да выдання каля 1000 артыкулаў для будучай энцыклапедыі.

Цяжка пісаць пра Якуба Адамавіча ў мінулым часе. Ён быў душой татарскай супольнасці, яскравым прыкладам служэння свайму народу, сваёй Бацькаўшчыне — Беларусі. Сталі

хрэстаматыйнымі яго словы: "Нас, татараў, разам з беларусамі 10 мільёнаў". Ён быў аўтарам зварота да супляменнікаў, усіх грамадзян Беларусі (май 1995 г.), які падпісалі лепшыя прадстаўнікі татарскай інтэлігенцыі. Ён спадзяваўся, што на рэферэндуме татары Беларусі, як старажылы, так і пазнейшыя пасяленцы, выкажуцца за беларускую дзяржаўную мову без агаворак, бо далікатнасць, павага і шчырасць да народа, сярод якога жывуць татары, дзе нарадзіліся нашы дзеці, дзе вечным сном спачываюць нашы продкі, не даруюць нам здрады сваёй Бацькаўшчыне. За вялікія дасягненні ў даследаванні айчыннай гісторыі, культуры і рэлігіі беларускіх татар, актыўны ўдзел у татарскім і беларускім нацыянальна-культурніцкім Адраджэнні Якуб Якубоўскі 8 красавіка 1998 года быў узнагароджаны Камітэтам ушанавання медалём Міколы Шчакаціхіна "За братэрскае спрычыненне ў развіцці навукі і культуры Беларусі" і дыпломам. Імя Якуба Якубоўскага занесена ў кнігу гонару "Рупліўцы твае, Беларусь".

Якуб Якубоўскі любіў гаварыць: "Трэба працаваць так, быццам апошні дзень працуеш. А жыць так, як будзеш жыць вечна". Ён прымаў удзел ва ўсіх мерапрыемствах, што праводзіліся Беларускім згуртаваннем татараў-мусульман "Аль-Кітаб" разам з Мусульманскім рэлігійным аб'яднаннем у Рэспубліцы Беларусь: вечарынах, навуковых канферэнцыях, урачыстасцях з нагоды татарскіх і мусульманскіх святаў. Ён з'яўляецца стваральнікам гімна татараў-мусульман Беларусі. У гэтым творы такія радкі: "Йшлі гады, і нашчадкі татар-мусульман беларускую мову з павагай прыдбалі. Але веру ў Аллаһа — свяшчэнны Іман мы да Суднага дня захаваем. Ля іляһа ілля Аллаһу. Мухаммед рэсюлюллаһу". Ён свята верыў у Аллаһа, пракокаў, анёлаў, у кнігі, якія былі пасланы Усявышнім Аллаһам праз сваіх прарокаў людзям, у Судны дзень, у прадвызначэнне Боскае. Якуб Адамавіч пачаў перакладаць святую кнігу мусульман — Кур'ан на беларускую мову. Ён быў сапраўдным мусульманінам, пакінуў пасля сябе добрыя справы і выхаваных дзяцей. Дай Аллаһ яму светлы Рай!

**"Аллагумма іджальгу ляна фартан, уа джальгу ляна зухран, уа джальгу ляна шафіан, уа мушафан. Бірахреметыка ар-рахмані рахім".**



*Ганараванне Я.А. Якубоўскага дыпломам і медалём Міколы Шчакаціхіна. Уручаюць: прафесар А.П. Грыцкевіч і А.Я. Белы*

О Аллаһ! Ператвары страту Яго для нас у заклад. Даруй яму за нас узнагароду і скарб. Зрабі яго просьбітам за нас і заступнікам нашым. О Найміласэрнейшы з міласэрных, дай нам Тваё спачуванне.

**"Раббана а'аціна фі дунья хасанатан, уа філь ахіраці хасанатан, уа кіна азаббанар".**

О Аллаһ! Дай нам дабра ў гэтым і замагільным жыцці і абарані ад пекла вогненнага!

**"Інна Аллаһу уа інна ілейгі раджыун".**

Сапраўды, Аллаһу належым і да Яго вяртаемся!

**Ібрагім Канапацкі**



Гэты артыкул быў перададзены ў газеты "Культура" і "Голас радзімы". Кіраўніцтвы іх рэдакцый выказалі нам шчырае спачуванне і змясцілі артыкул у сваіх нумарах: газета "Культура" — у № 38 / 3–9 кастрычніка, газета "Голас Радзімы" — у № 40 / 8 кастрычніка 1998 г.

***

# ПАМЯТИ ЯКУБА АДАМОВИЧА ЯКУБОВСКОГО

С глубокой скорбью муфтият Мусульманского религиозного объединения в Республике Беларусь доводит до сведения мусульман Беларуси печальное известие: 14 сентября умер, а 15 сентября 1998 г. похоронен один из основателей и активнейших участников нашего движения возрождения Якуб Адамович Якубовский.

Он был честным, скромным, бескорыстно преданным нашему общему делу человеком, вставшим добровольно на труднейший участок работы — просвещения татар и мусульман в области нашего исторического, культурного и религиозного наследия, пробуждения и воспитания их духовного самосознания, мобилизации их энергии и сил на возрождение своих традиций, культуры, татарского языка.

Якуб Адамович был инициатором и основным исполнителем задуманного им энциклопедического справочника "Татары Беларуси, Литвы и Польши". Он успел собрать огромный материал, составил общий список намеченных к опубликованию статей, часть из них выборочно публиковал в журнале "Байрам", главным редактором которого был от первого номера и до последнего (вып. 1 — 1998), вышедшего уже после его кончины. Наш долг — довести задуманные им добрые дела и намерения до логического завершения. Это станет доброй памятью ему на многие годы, и наши потомки будут с благодарностью пользоваться трудами инициатора и первопроходца Якуба Адамовича.

Мы все понесли тяжёлую утрату, нам часто будет недоставать его энергии, настойчивости, тонкого юмора, разумного совета, уравновешенности. Но Великий Аллах распорядился по-своему. В Кур'ане (сура 2, аят 156) говорится:

**"Инна лилляги ва инна илейги раджиун".**

**"Поистине, мы принадлежим Аллаху, и к Нему мы возвращаемся".**

Мы выражаем глубокие соболезнования и сочувствие жене Татьяне Васильевне, их дочери и сыну, братьям покойного и просим Великого Аллаха ниспослать Свои благословение и ми-



*Магіла Я.А. Якубоўскага*
*на мізары ў Смілавічах*

лость Якубу Адамовичу, и да пребывает его душа в мире и спокойствии.

Мы же со своей стороны продолжим в меру своих сил и возможностей то, за что так переживал и чему всем силами способствовал незабываемый нами Якуб Адамович, — дело нашего возрождения.

Пусть ему будет пухом белорусская земля, в которой похоронены многие наши предки (могила Якуба Адамовича находится на мизаре в г.п. Смиловичи, недалеко от могилы его бабушки).

**И. Александрович,**
муфтий мусульман Беларуси.

***

## *СПАЧУВАННІ*

## ПОСОЛЬСТВО РЕСПУБЛИКИ ТУРЦИЯ

*Минск, 18 сентября 1998 г.*

**Уважаемый господин Абу-Бекир Шабанович!**

Позвольте выразить от себя лично и от имени персонала Посольства глубокое соболезнование в связи со смертью Якуба Якубовского, выдающегося историка и деятеля культуры.

Мне известно, что это был человек энциклопедических знаний в области лингвистики, истории, биологии, географии, культуры. Якуб Якубовский был пионером культурного возрождения татар и белорусов, он известен как составитель уникальной энциклопедии "Татары Беларуси, Литвы и Польши".

Смерть такой личности — это большая утрата для всех. Прошу Вас передать глубокое соболезнование семье и близким Якуба Якубовского.

С уважением,

**Шуле Сойсал,**
посол.

***

## АКАДЕМИЯ НАУК РЕСПУБЛИКИ ТАТАРСТАН ИНСТИТУТ ТАТАРСКОЙ ЭНЦИКЛОПЕДИИ

Глубоко опечалены известием о преждевременной кончине замечательного историка, географа, лингвиста, лауреата Государственной премии Белоруссии, обладателя Серебряного Знака ЮНЕСКО Якуба Адамовича Якубовского, при активном участии которого были созданы: 12-томная "Белорусская Советская Энциклопедия", 5-томная "Энциклопедия природы Белоруссии", "Белорусская ССР. Краткая энциклопедия" и др. издания.

Белорусский татарин по происхождению, он считал себя сыном двух народов — татарского и белорусского. В своём творчестве Якуб Адамович исходил из того, что проблемы социально-культурной жизни белорусских татар невозможно решить без укрепления суверенитета, возрождения культуры белорусского народа.

В 1991 г. Якуб Адамович организовал выпуск ежеквартальника "Байрам" для белорусских татар, ряд статей из которого перепечатывались в газетах и журналах Татарстана.

С 1992 г. Якуб Адамович активно сотрудничал с нашим Институтом Татарской энциклопедии Академии наук Республики Татарстан и оказывал существенную методическую помощь в разработке первой в истории Татарской энциклопедии. Им для этого был подготовлен ряд материалов по истории белорусских татар.

В его творческих планах было создание уникальной энциклопедии "Татары Беларуси, Литвы и Польши", пробные статьи из которой печатались в ежеквартальнике "Байрам".

Якуб Адамович вёл большую активную общественную работу, был членом правления Белорусского объединения татар-мусульман "Аль-Китаб".

Мы знаем его любимую поговорку: "Нужно работать так, будто работаешь последний день, а жить так, словно будешь жить вечно..."

В подготовленном к печати Татарском энциклопедическом словаре о нём дана краткая биографическая справка.

В нашей памяти Якуб Адамович останется навсегда.

Выражаем глубокое соболезнование семье, близким, друзьям, коллегам Якуба Якубовского — славного сына татарского и белорусского народов.

Мы скорбим вместе с Вами.

**Коллектив Института**
**Татарской энциклопедии**
**Академии наук Республики Татарстан.**
*Казань, 19 октября 1998 г.*

***

У газеце "Наша слова" № 37 / 23 верасня было змешчана спачуванне партыі Беларуская Сацыял-дэмакратычная Грамада:

***Выканкам Беларускай Сацыял-дэмакратычнай Грамады смуткуе ў сувязі з заўчаснай смерцю сябра партыі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі, вядомага змагара за адраджэнне беларускай мовы, гісторыі і культуры, аднаго з кіраўнікоў Згуртавання беларускіх татараў "Аль-Кітаб" Якуба Якубоўскага і выказвае спачуванне сям'і нябожчыка.***

***Выканкам БСДГ***

***

"Наша слова" змясціла словы ўшанавання, сказаныя на мітынгу ў абарону беларускай мовы, які адбыўся 16 верасня на плошчы Якуба Коласа ў Мінску. Удзельнікі мітынгу ўшанавалі яго памяць хвілінай маўчання.

## СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ сп. ЯКУБОЎСКАГА

***14 верасня памёр, а 15 верасня быў пахаваны на бліжэйшых ад Менска татарскіх могілках у Смілавічах Якуб Адамавіч Якубоўскі.***

***Большую частку свайго жыцця ён аддаў працы ў Беларускай энцыклапедыі, чым прынёс шмат карысці. А адразу пасля выхаду на пенсію і да апошніх дзён свайго жыцця — 6 гадоў — быў галоўным рэдактарам квартальніка татараў на Беларусі "Байрам".***

***Многія з нас з цікаўнасцю чыталі гэты часопіс, а некаторыя і змяшчалі ў ім свае матэрыялы. Квартальнік "Байрам" выдаваўся на беларускай мове; большасць беларускіх татараў менавіта яе ўважаюць за родную.***

***Якубу Адамавічу наша мова дакладна была роднай, у сваёй любові да яе ён быў паслядоўным і адданым, ганарыўся, што размаўляе на адной мове з тымі, для каго яна не сродак зносін, а душа нарадзіўшага яе народу.***

***Мы аддаём Якубоўскаму Якубу Адамавічу даніну сваёй найвялікшай павагі, сумуем разам з яго роднымі і блізкімі, сябрамі Згуртавання татараў "Аль-Кітаб". Няхай лёгкай будзе яму зямля, адданасць якой ён пацвердзіў сваімі светлымі справамі, шчырымі адносінамі з яе жыхарамі.***

***Сакратарыят ТБМ.***

Якуб Адамавіч Якубоўскі ахвяроўваў свае грошы на падтрымку выдання газеты "Наша слова". Ён добра разумеў, як цяжка выдаваць без дзяржаўнай падтрымкі. Апошні ўзнос быў перададзены ім у чэрвені 1998 г. Як знак удзячнасці і ў памяць аб яго самаахвярнасці мы змяшчаем Скарбовы ліст складак сяброў таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны.

## СКАРБОВЫ ЛІСТ
## складак сяброў таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны
### па Беларускім згуртаванні татараў-мусульман "Аль-Кітаб" за чэрвень 1998 г.

| №№ | Прозвішча, імя | Агульная сума | Подпіс сябра таварыства |
|---|---|---|---|
| 1 | Александровіч Ісмаіл | 100 т.р. | подпіс |
| 2 | Якубоўскі Якуб | 100 т.р. | подпіс |
| 3 | Асановіч Адам | 20 т.р. | подпіс |
| 4 | Канапацкі Ібрагім | 100 т.р. | подпіс |
| 5 | Канапацкая Зарына | 20 т.р. | подпіс |
| 6 | Багданаў Іран | 20 т.р. | подпіс |
| 7 | Канапацкі Захар | 40 т.р. | подпіс |
| 8 | Туфкрэо Разалія | 50 т.р. | подпіс |
| 9 | Туфкрэо Анжэліна | 50 т.р. | подпіс |

**Скарбнік першаснай суполкі (подпіс).**



Мы выказваем словы асабістай удзячнасці аўтару і вядучай радыёпраграмы "Супольнасць" Ліліі Канстанцінаўне Коршун, якая ў сваёй праграме ўшанавала памяць Якуба Адамавіча Якубоўскага.

***

БЕЛАРУСЬ / ПАМЯТЬ

# УМЕР ИНИЦИАТОР СОЗДАНИЯ УНИКАЛЬНОЙ ЭНЦИКЛОПЕДИИ "ТАТАРЫ БЕЛАРУСИ, ЛИТВЫ И ПОЛЬШИ" ЯКУБ ЯКУБОВСКИЙ

**Минск. 17 сентября.** На 67-м году умер инициатор создания уникальной энциклопедии "Татары Беларуси, Литвы и Польши" Якуб Якубовский.

Как сообщил БелаПАН руководитель минской общины татар-мусульман кандидат истории Ибрагим Канапацкий, в течение 6 последних лет Я. Якубовский составил около 1000 статей будущей энциклопедии (из 30.000), посвящённых разнообразным аспектам жизни татар-мусульман среди представителей других культур и конфессий. "Белорусское объединение татар-мусульман "Аль-Китаб" и родные братья Якуба — Адам и Бронислав — считают своим долгом завершить этот многотомный труд", — заметил И. Канапацкий. Человек энциклопедических знаний — лингвист, историк, культуролог, географ, биолог, Я. Якубовский в конце 80-х годов стоял у истоков татарского и белорусского возрождения. Он в 1991 году организовал выпуск первого печатного издания белорусских татар — журнала "Байрам" и был главным редактором его первых 27 номеров.

***Справка БелаПАН:*** Якуб Якубовский родился 20 апреля 1932 года в деревне Камаи Поставского района Витебской области в семье ремесленника. После окончания Видзевской средней школы Браславского района учился в Минском педагогическом институте и Белорусском государственном университете по специальностям история, география, белорусский язык и литература. Работал учителем начальной школы, научным сотрудником Института почвоведения, заведующим редакцией Белорусской Энциклопедии. За издание 12-томной "Белорусской Советской Энциклопедии" в 1978 году был удостоен Государственной премии БССР.

Похоронен на татарском мизаре в посёлке Смиловичи Червенского района Минской области.

**Марат Горевой, БелаПАН.**

***

Вестка аб смерці Якуба Адамавіча Якубоўскага не пакінула абыякавымі тых, хто ведаў паважанага Якуба Адамавіча. Яго родныя і сябры Згуртавання "Аль-Кітаб" атрымалі спачувальныя лісты. Многія выказалі сваё спачуванне словамі. Не ўсе яшчэ ведаюць аб гэтай непамернай страце. Ніжэй мы змяшчаем частку лістоў, атрыманых на час працы над гэтым нумарам часопіса.



***З Беларусі ў Польшчу Лена Глагоўская вярнулася з жалобнай весткай. Асабліва балюча ўспрынялі яе Муса Гасанавіч і Тамара Гасанаўна Канапацкія.***



Перадусім Згуртаванню татараў-мусульман Беларусі "Аль-Кітаб", рэдакцыі "Байрама" перадаю самыя сардэчныя словы спачування!

Падзяляю разам з сястрой Тамарай Ваш вялікі боль і тым больш адчуваю маю сувязь з Вамі ўсімі.

Так, пашчасціла мне пазнаёміцца з Якубам Якубоўскім пад час гэтай вельмі памятнай адзінай набыўкі ў Мінску, у доме Ібрагіма Канапацкага. Запэўніваю, што пранясу гэты ўспамін аб Пакойным, аб нашай размове праз рэшту жыцця. Маю надзею, што Аллах дазволіць мне яшчэ пабываць на роднай зямельцы нашага бацькі, каб мог я памаліцца над магілкай нашага слаўнага Якуба Якубоўскага, каб давялося ізноў пабачыць Вас усіх, ды заглянуць у Смілавічы. Калі не здзейсню гэтай мары ў 1999 г., дык... Здароўе выразна пагаршаецца.

Мне здаецца, трэба было б Якубу Якубоўскаму прысвяціць спецыяльны выпуск "Байрама". Уяўляю сабе, якая гэта вялікая страта для татарскага грамадства Беларусі.

**І я плачу!**





**Глыбокапаважаная, дарагая сям'я**
**Пакойнага Якуба Якубоўскага!**

Дайшла да нас, татарскай супольнасці Польшчы, вельмі сумная звестка аб пагаслым жыцці Якуба Якубоўскага, нашага Адзінаверніка.

Дазвольце мне ад імя татарскага грамадства Польшчы перадаць сям'і Пакойнага самыя глыбокія словы спачування!

У гэты час мы нашымі малітвамі і найлепшымі ўспамінамі аб Пакойным знаходзімся з Вамі, яго найбліжэйшымі суродзічамі, з асяроддзем, у якім знаходзіўся Якуб Якубоўскі.

Тутака, у Польшчы, добра ведаем пра доўгі, незвычайна працавіты шлях Пакойнага, пра яго адданасць роднай Беларусі і роднаму татарскаму грамадству, у чыё адраджэнне ён унёс неацэнны ўклад.

Пахіляем нашыя галовы над гэтай свежай магілаю і нашымі сэрцамі запэўніваем, які вялікі боль іх ахутвае!

Ад імя татарскага грамадства Польшчы —

**Муса Гасанавіч Канапацкі.**

***



**Добры дзень, глыбокапаважаны Ібрагім Барысавіч!**

Жыву і працую далёка ад Беларусі, у суровым Запаляр'і, але не парываю сувязей з Бацькаўшчынай. Кожны год бываю на сваёй Гомельшчыне, а больш дакладна — у вёсцы Пірэвічы Жлобінскага раёна, дзе душою спачываю.

А тут, на Кольскай зямлі, весткі з Радзімы дае штотыднёвік "Голас Радзімы". З яго даведаўся аб заўчаснай смерці (хіба 66 год — гэта ўзрост для мужчыны?) вядомага дзеяча беларускіх татар, беларускага вучонага, які ўсё сваё свядомае

жыццё аддаваў служэнню Беларусі, — Якуба Адамавіча Якубоўскага.

Вырашыў падзяліцца сваімі думкамі наконт Якуба. Але перш за ўсё думаю, чаму так здараецца, што выдатныя сыны Беларусі, шчыра адданыя беларускасці, рана йдуць з жыцця.

Узяць, да прыкладу, Міхася Ткачова, а таксама Якуба Якубоўскага, ды і іншых. Без іх адданасці справе нацыянальнага Адраджэння "заглохла б нива жизни".

Міхася ў свой час я ведаў вельмі добра. Разам вучыліся ў аспірантуры Інстытута гісторыі АН БССР і жылі ў адным аспірантскім інтэрнаце. З Якубам Адамавічам давялося сустрэцца толькі адзін раз, як гавораць, у цёплай кампаніі. Гэта не перабольшванне — сустрэча з ім пакінула свой след у маім жыцці. Звязана гэта было з тым, што ён добра ведаў гісторыю Беларусі, яе выдатных сыноў, а таксама гісторыю Літвы і Польшчы. Калі ён даваў характарыстыку таму ці іншаму дзяржаўнаму дзеячу ці дзеячу культуры і мастацтва, здавалася, быццам ён жыў у той час. Адкрыў ён мне таксама і гісторыю беларускіх татараў, пра якіх я ведаў "вскользь".

Мы хутка зышліся з ім, бо шмат было ў нас агульнага: амаль аднагодкі — ён 1932 года нараджэння, а я з 1936-га, як ён, так і я нарадзіліся ў вёсцы і добра памяталі пасляваеннае жыццё, абодва гісторыкі, і за нашымі спінамі нікога не было, каб лёгка, скажам так, рабіць кар'еру. Добра памятаю яго словы: "Мы павінны з табой ганарыцца, што мы самі дасягаем у жыцці мэты", — з чым я быў цалкам згодны.

Той цудоўны вечар, а гэта так, без перабольшвання, быў, вядома, напоўнены не толькі размовамі, але і спевамі. Адзначу яшчэ і тое, што я ў нейкай ступені з'яўляюся душой кампаніі. У мяне да гэтага часу, без хвальбы, вельмі моцны і прыгожы голас. І ведаю я безліч песень, як народных — беларускіх, рускіх, украінскіх, так і савецкіх кампазітараў. Мае спевы вельмі спадабаліся Якубу...

Больш з ім мне не прыходзілася сустракацца. Як кажуць — "разные судьбы". Канешне, я ведаў, што яму было прысвоена званне лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР. Праўда, не ведаў, што ён быў узнагароджаны яшчэ і трыма граматамі

Вярхоўнага Савета БССР. Як бы ні гаварылі аб мінулым, але добрая праца заўважалася ўладамі...

Вы, глыбокапаважаны Ібрагім Барысавіч, робіце вялікую справу па ўшанаванні выдатнага сына беларускіх татар і Беларусі. Такія людзі, як Якуб Адамавіч, безумоўна, павінны застацца ў аналах гісторыі.

Веруючыя ў такім выпадку гавораць: "Дапамажы Бог". Гэта асабістае, хаця я не веруючы, тым не менш заўсёды адношуся з павагай да веруючых.

З вялікай павагай,

прафесар Манчагорскага філіяла
Санкт-Пецярбургскага горнага інстытута
**А.Е. Пятруннікаў.**
*Мурманская вобласць, Манчагорск.*
*Кастрычнік, 1998 г.*

***



**With sincere sympathy in your
recent loss, and a hope that time has
helped in some small way to
ease the sorrow in your heart.**

**Міхась і Тамара Белямукі.**

З газеты "Голас Радзімы" даведаліся, што татарская калёнія панесла вялікую страту ў асобе св. памяці Якуба Якубоўскага. Мы з далёкага Кліўленду, ЗША, далучаемся да Вас, схіляем свае галовы над магілай слаўнага патрыёта, навукоўца і змагара за правы свайго народа. Хай будзе пухам зямелька.

***

# СВІТЛІЙ ПАМ'ЯТІ ЯКУБА ЯКУБОВСЬКОГО

В Мінську на 67-му році помер визначний енциклопедист Яків (Якуб) Адамович Якубовський, лауреат Державної премії БРСР за видання 12-томної "Білоруської Радянської Енциклопедії".

Народився Я.А. Якубовський у 1932 році на Вітебщині. Після закінчення школи отримав стаціонарну і заочну освіту в Мінському вчительському інституті, Білоруському державному університеті імені Леніна, що дозволило йому успішно працювати на всіх ділянках при видавництві енциклопедичних довідників. В 1987 році вийшов енциклопедичний довідник "Брест", одним з редакторів якого був Якуб Адамович.

Після виходу на пенсію Якубовський працював головним редактором часопису "Байрам. Татари на землі Білорусі" Білоруського об'єднання татарів-мусульман "Аль-Кітаб" — першого друкованого видання за всю 600-річну історію цього народу. Останнім часом напружено працював над енциклопедією "Татари Білорусі, Литви і Польщі", реєстр якого на 30000 енциклопедичних довідок, частина з них присвячена Україні та українцям.

Якуб Адамович Якубовський з особливою любов'ю і щирістю ставився до братньої України, її історії, літератури та мистецтва і багато зробив для поєднання наших народів.

**Михайло Малиновський.**

*(З газети "Берестейський край", № 38 (94), 30 жовтня 1998 року.)*

***

# ЗБІРАЛЬНІК ТАТАРСКАЙ АБШЧЫНЫ

Смерць слынных асобаў заўсёды ўспрымаецца як вялікая трагедыя. Калі ж памірае такі чалавек дробнай па колькасці людзей этнічнай групы, яго адыход на вечны спачын шматкроць павялічвае гэтую трагедыю. Думаю, акурат так расцэньвае татарская абшчына Беларусі смерць свайго дарагога, незабыўнага сына Якуба Якубоўскага. Да глыбіні душы ўзрушыла яна і многіх беларусаў, якія ведалі Якуба, падтрымлівалі з ім цесныя сяброўскія сувязі, удзельнічалі ў розных сумесных культурна-адраджэнскіх мерапрыемствах.

Першая сустрэча аўтара гэтых радкоў з Якубам адбылася каля двух дзесяткаў гадоў таму ў сценах рэдакцыі "Беларускай Савецкай Энцыклапедыі". Мой візіт туды быў звязаны з удакладненнем некаторых фактаў з недарэчнай практыкі перайменавання мясцовымі савецкімі органамі населеных пунктаў. Пад гэты час я ўжо разгарнуў актыўную дзейнасць па вяртанні гістарычнага імя свайму роднаму мястэчку Магільнае (Уздзенскі раён Мінскай вобласці), якое далёкія ад беларускіх нацыянальна-культурных традыцый чыноўнікі чыста жульніцкім шляхам перайменавалі ў Нёман. Парэкамендавалі звярнуцца ў



*Я. Якубоўскі ў Смілавіцкай мячэці*

"БелСЭ", у рэдакцыю геаграфіі і геалогіі. Ёю тады загадваў Якуб Якубоўскі. Прыняў мяне вельмі ветліва, але з-за вялікай занятасці не пайшоў на шматслоўную размову. На развітанне сказаў: "Прыходзьце праз два дні, усё будзе зроблена". Слова сваё стрымаў. Ён мяне ўзброіў такою колькасцю фактаў пра перайменаванні беларускіх вёсак, што я без асаблівых цяжкасцей змог падрыхтаваць не адну публікацыю, паказваючы, якую непапраўную шкоду прынесла гэтая заганная практыка для нашай айчыннай гісторыі і культуры. Атрымаўшы такі каштоўны матэрыял ад Якуба, мне вельмі ўжо хацелася цёплымі словамі аддзячыць паважанага энцыклапедыста, а ён неяк так умела не даваў мне выказацца і замест таго, каб слухаць свайго наведвальніка, сам гаварыў, радаваўся, што ўпершыню сустрэў чалавека, які не пабаяўся выступіць у абарону гістарычнай тапанімікі. Пры выхадзе з кабінета пачуў: "Вось бы нам пабольш такіх змагароў, а то афіцыйныя ўлады знічтожылі сотні найменняў населеных пунктаў, дзе нарадзіліся многія вучоныя, пісьменнікі, дзеячы культуры, і хоць бы адзін з іх выказаў свой пратэст з такой нагоды".

У той маёй сустрэчы з Якубам Якубоўскім не было працягу. Мы хутчэй за ўсё нават і не пазнавалі адзін аднаго, размінаючыся на вуліцах горада. Аднавіліся сустрэчы і ўзгадалі мы пра той візіт дзесьці на пачатку 90-х гадоў, калі беларускія татары сталі запрашаць мяне на свае канферэнцыі і вечары, прапаноўвалі выступіць на старонках іх часопіса "Байрам", нязменным галоўным рэдактарам якога быў Якубоўскі. Мае матэрыялы браў ахвотна і без затрымкі змяшчаў іх у часопісе, жартуючы: "Не марудзьце з напісаннем чарговага артыкула".

Найбольш памятная сустрэча і размова адбылася летась, на пачатку восені. Спаткаліся ля Нацыянальнай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь. Настрой у Якуба быў нейкі своеасаблівы, і ён адразу агарошыў мяне пытаннем: "Спадар Лыч, ведаеце Вы, хто Вы такі?" Адказваю: "Вучоны-гісторык". Якуб маўчыць. Значыцца, не задаволенены. Таму я працягваю характарызаваць сябе такімі прафесійнымі тэрмінамі: "Палітолаг", "Публіцыст", "Культуролаг". І раптам чую: "Досыць. Няма правільнага адказу на маё пытанне. Запомніце: Вы ёсць збіральнік беларускай нацыі і больш ніхто".

Мне стала ніякавата пасля такіх пахвальных слоў, стараўся пярэчыць, што, маўляў, я ж нічога не зрабіў такога істотнага для кансалідацыі беларускай нацыі, што яна знаходзіцца ў стадыі страшэннай дэградацыі, у большасці сваёй, не выключаючы нават многіх інтэлектуалаў, палітыкаў, арыентуецца не на ўласныя, а чужыя культурна-моўныя традыцыі. Якуб не стаў далей слухаць мае пярэчанні, і мы развіталіся, так і не паразумеўшыся паміж сабой. Аднак характар той гаворкі доўгі час не выходзіў з маёй галавы. Прыгадалася тая незвычайная сустрэча і адразу пасля таго, як даведаўся пра смерць Якуба. Мне так хочацца працягнуць тую гаворку і зараз, нават у адсутнасць майго паважанага суразмоўцы.

Дарагі Якубе! Павер, ты ўсё ж пераацаніў мяне тытулам "збіральнік беларускай нацыі". А вось я ніколькі не перабольшу, назваўшы — хаця і з вялікім спазненнем — цябе "збіральнік татарскай абшчыны". Ты зрабіў для яе адраджэння ўсё, што толькі мог. Дзеля гэтай высакароднай справы ты не шкадаваў ні часу, ні энергіі, ні здароўя, таму і заўчасна адышоў на той свет. Такое часта здараецца з людзьмі, якія жывуць у імя вялікіх, святых ідэалаў.

Добрыя справы не забываюць нашчадкі. Не забудзецца, вельмі шаноўны Якубе, і зробленае табой для сваіх братоў-татараў. Цвёрда ўпэўнены, яны не спыняць самаахвярных намаганняў, каб адрадзіць культуру і мову старэйшых пакаленняў. У гэтым сённяшнія татары могуць разлічваць на дапамогу сваіх беларускіх сяброў, хаця і ў іх саміх процьма невырашаных праблем нацыянальнага адраджэння. Так давайце будзем упарта змагацца за агульную справу. А ты, мой дарагі татарскі браце, спакойна спачывай у любай і роднай для цябе беларускай зямельцы. І смела туліся і на тым свеце бліжэй да беларусаў, што не выракліся сваей роднай духоўнай спадчыны, матчынай мовы. З імі ты будзеш пачуваць сябе намнога лацвей, хутчэй звыкнешся з варункамі вечнага жыцця.

**Леанід Лыч.**

***

# БЫЎ СВЯТЛОМ ЁН ГАЮЧЫМ

**Светлай памяці**
**Якуба Якубоўскага**

Вестку цяжкую мне за трывожнымі снамі
Вечаровы эфір нечакана прынёс:
Вас няма на Зямлі. Плача восень дажджамі,
Плача сэрца маё — вочы поўныя слёз.

Беларускі татарын Якуб Якубоўскі,
Я любіў Вас — не смеў бы тут словам грашыць;
Знаў свяшчэнны агонь — назаву яго Боскім —
Далікатнае вашай і мужнай душы.

Той агонь саграваў, быў святлом ён гаючым,
Быў стваральным на нашай гаротнай зямлі,
Ён пранесены быў да мяжы немінучай
Гэтак годна — інакш, знаю, Вы не маглі.

Я трымаю "Байрам" — у жыццёвых нягодах
Вамі ўзрошчаны плод самых добрых надзей,
Мне падораны ён з дрэва дружбы народаў
І сяброўства сардэчных і верных людзей.

**Васіль Жуковіч.**

***

# УСПАМІН ПРА Я. ЯКУБОЎСКАГА

Мінула больш чым сорак дзён з таго часу, як не стала Я.А. Якубоўскага. Паводле рэлігійных правілаў, сорак дзён — тэрмін, на працягу якога душа чалавека адыходзіць у іншы свет. Для жывых людзей — гэта час, які дазваляе ім асэнсаваць страту таго альбо іншага чалавека і зрабіць аб ім адпаведныя высновы.

Жыццё — складаная рэч, і кожны чалавек, уступаючы ў яго, хоча па-свойму рэалізаваць сябе, рэалізаваць свой грамадскі статус. Адны стараюцца забяспечыць сабе і сваім дзецям матэрыяльны дабрабыт, іншыя імкнуцца да творчых поспехаў і гэтак далей. Такія памкненні людзей звычайна пазбаўлены духоўнага зместу. Часта чалавек задумваецца над тым, што ён пакіне пасля сябе, што аб ім будуць думаць і гаварыць нашчадкі.

Якуб Адамавіч адносіцца да таго рэдкага тыпу людзей, якія пры жыцці самаадданай працай ствараюць сабе помнік. Знешне звычайны, просты, невысокага росту, у акулярах. Але гэта толькі знешне. Перад тымі, хто яго ведаў, ён паўставаў як высокаадукаваны чалавек, які аддаваў усяго сябе без астатку людзям. Чалавек з вялікай літары, патрыёт сваей Радзімы. Ён адназначна балюча ўспрымаў праблемы беларускага і татарскага адраджэння. Усяго сябе цалкам прысвяціў гэтай высакароднай справе. Будучы цяжка хворым, Якуб Адамавіч на працягу амаль дзесяці гадоў працаваў самаааддана і сумленна на ніве адраджэння беларускіх татараў: выдаваў часопіс-квартальнік "Байрам", распачаў падрыхтоўку да выдання энцыклапедычнага даведніка па гісторыі, рэлігіі і культуры татар Беларусі, Літвы і Польшчы. Ён меў багаты жыццёвы вопыт. Разважаў адначасова як філосаф і практык, мог даць слушную параду. Нешматслоўны чалавек, ён мог коратка і трапна даць дакладны адказ. Якуб Адамавіч вельмі любіў сваю Радзіму — Беларусь і хацеў бачыць яе вольнай і шчаслівай. Сваю любоў і вернасць Радзіме ён пранёс праз усё жыццё.

**Мустафа Канапацкі.**

***

# ПАМЯЦІ ЯКУБА АДАМАВІЧА ЯКУБОЎСКАГА

Ці многа ў каго з нас на жыццёвым шляху сустракалася цікавых і змястоўных людзей? Смела скажу — не. Такія людзі, дакладней — асобы, — рэдкасць. І ўсё ж яны ёсць. І з адным з іх быў я нават у прыяцельскіх ад-носінах. Гэта рана пайшоўшы з жыцця Якуб Адамавіч Якубоўскі. Чалавек энцыклапедычных ведаў (я не ведаў, чаго б ён не ведаў), высокай маральнай загартоўкі, руплівы працаўнік на ніве беларуска-татарскай культуры, ён заўсёды пры сустрэчах дарыў мне (і не толькі мне) радасць.

Будучы на пенсіі (а да гэтага значную частку свайго жыцця ён узначальваў рэдакцыю геаграфічнай літаратуры беларус-кага энцыклапедычнага выдавецтва), Якуб Адамавіч часта на-ведваў мяне па нашых супольных і агульных культурніцкіх справах у рэдакцыі гісторыі і геаграфіі выдавецтва "Народная асвета", дзе я працую і сёння. Нікольکі не перабольшваючы, можна сцвярджаць, што таму, хто быў у рэдакцыі, калі сюды прыходзіў Якуб Адамавіч, вельмі шанцавала. І вось чаму. У асобе Якуба Адамавіча Якубоўскага ўсе сустракалі Чалавека з вялікай літары — адданага патрыёта Дэмакратыі, краіны Ведаў і, вядома, Беларусі.



*Я.А. Якубоўскі — загадчык рэдакцыі геаграфіі і геалогіі*

Разам з Якубам Адамавічам мне давялося прымаць сціплы ўдзел у падрыхтоўцы больш дзесятка квартальнікаў "Байрам". У рабоце ён заўсёды быў карпатлівы, тактоў-

ны і добразычлівы да іншых. У яго жыцці вялікую ролю адыгрывала кніга. І любую яе, разумную і цікавую, ён заўсёды імкнуўся ўручыць на прачытанне і мне, не абмяжоўваючы тэрмінам.

Незаможны ў сэнсе матэрыяльнай маёмасці, нават амаль класічны пралетарый, ён заўсёды гатовы быў адарваць ад сябе пэўную суму грошаў на справу асветы. Ён заўсёды радаваўся чужым удачам і здабыткам у галіне духоўнай і культурнай творчасці, бо лічыў гэта ўкладам у агульную скарбонку.

Якуб Адамавіч Якубоўскі ў пэўным сэнсе быў Дон-Кіхотам нашых дзён, але не тым, што змагаўся з ветракамі... Ён добра бачыў "аб'екты" цемрашальства, што атручвалі і атручваюць жыццё ўвогуле і чалавечае — у прыватнасці. Бываў я ў яго і дома. І бачыўся ён мне цэнтрам, вакол якога групуецца яго шматлікая сям'я — жонка, дзеці, унукі, блізкія. Памятаю, як ён запрасіў мяне на прачытанне аднаго неардынарнага рукапісу па гісторыі Беларусі, і як я чытаў, слухаючы яго каментары, і як я любаваўся ім, калі ён кухарыў.

Вельмі і вельмі вялікую страту панеслі ўсе, хто яго ведаў, хто быў з ім побач, хто яго любіў. Асабіста мне яго не хапае. Не хапае яго і нашай роднай Беларусі, якой так самаахвярна служыў гэты незвычайны чалавек — беларускі татарын Якуб Адамавіч Якубоўскі.

Прымі і зберажы яго душу, Божа!

**Яўген Гучок.**

***

# ПАМЯЦІ ЯКУБА АДАМАВІЧА ЯКУБОЎСКАГА

5 сакавіка 1978 г. народны паэт Беларусі Максім Танк занатаваў такія радкі:

Вы гаворыце,
Што не было
Ні Праметэя,
Ні Ікара,
Ні Дон-Кіхота,
Ні Данка...

Няўжо я памыліўся
І не на тую
Завандраваў планету?

Калі я чытаў-перачытваў гэтыя вершы зараз, мне ўсё здавалася, што мудры класік нашай літаратуры менавіта думаў і пісаў пра такіх людзей, як незабыўны Якуб Адамавіч Якубоўскі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР, бо ён для беларусаў, беларускіх татараў, прадстаўнікоў іншых народаў нашай краіны ўвасабляў якасці легендарных герояў, тытанаў, адраджэнцаў, змагароў, сярод якіх былі і Праметэй, і Ікар, і Дон-Кіхот, і Данка... Таму мы сёння гаворым, што Якуб Адамавіч Якубоўскі для ўсіх нас быў, ёсць і будзе!!!

Асоба светлая, дзівосная, магічная і абагачаючая іншых, ён прыцягваў да сябе ўсё новых і новых творцаў! Дасюль у мяне выклікае найвялікшае здзіўленне, як за добрую сотню кіламетраў, у сталіцы, ён даведаўся пра мае натуралістычныя, геаграфічныя, літаратурныя, гістарычныя, этнаграфічныя росшукі і друкаваныя матэрыялы пра свой беларуска-татарскі народ. Спачатку даслаў у падарунак часопіс “Байрам”, а ў хуткім часе і сам ціха пагрукаў у мае дзверы. Так, яго дабрыня, павага, увага, погляды ў будучыню, юначы рамантызм і даверлівасць ашчаслівіла многіх людзей, гэта я змог увачавідку пабачыць і ў яго ўласнай кватэры, і на розных канферэнцыях, і на месцы яго былой працы, і проста на вуліцы.

Якуб Адамавіч Якубоўскі быў героем і мудрым чалавекам. Праз усё сваё жыццё ён гераічна пранёс любоў і пакуты за

адданасць, падкрэслю — самаахвярную адданасць роднаму беларускаму слову, літаратуры, гісторыі і культуры беларусаў, беларускіх татараў, і сам быў дзівосным і дзейсным агітатарам, прапагандыстам і даследчыкам беларускіх і беларуска-татарскіх з'яў. Яго любімым было прыслоўе: "Памірай, а жыта сей!" Да скону ён працаваў дбайна і рупліва на нівах культур двух народаў — беларускага і свайго маленькага, але зіхатлівага беларуска-татарскага, зрабіў вялікія і важкія ўнёскі ў іх. Пра гэта самі па сябе гавораць шматлікія тамы розных энцыклапедычных выданняў і стварэнне ім разам з сваімі сабратамі па духу першага ў гісторыі беларускіх татар за шэсць стагоддзяў часопіса — квартальніка "Байрам. Татары на зямлі Беларусі". Гэта ён з такімі жа аднадумцамі стаяў ля вытокаў і сучаснай плыні Беларускага згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб".

Мы не забудзем такога высакароднага чалавека, якім адбыўся Якуб Адамавіч Якубоўскі. Акрамя іншых сваіх здабыткаў, ён нам і нашчадкам пакінуў назаўсёды і свой зямны і прачулы гімн "Мы з Іманам жывём на зямлі Беларусі", які пераклаў на крымска-татарскую мову выбітны сын Крыма і Беларусі Ісмаіл Ісмаілавіч Меметаў.

Мы з Паволжа і Крыма з Іманам прыйшлі
На гасцінныя землі Літвы й Беларусі.
Пад Грунвальдам суровы экзамен здалі
І уланскую службу няслі без прымусу.
*Рэфрэн:*
Ляй лагу іллялагу, Мухамед расул Алагу,
Ляй лагу іллялагу, Мухамед расул Алагу.

(...)

Асаблівым уздзеяннем на Якуба Адамавіча і яго любоўю карысталіся сярод літаратараў Якуб Колас, Янка Купала, Максім Багдановіч, Пятрусь Броўка, Алесь Гарун... Не аднойчы ён цытаваў мне творы, асабліва Пятра Усцінавіча, з якім ён натхнёна працаваў ад пачатку нараджэння выдавецтва "Беларуская Савецкая Энцыклапедыя" (зараз "Беларуская Энцыклапедыя" імя П.У. Броўкі) і з якім за сваю велічную працу, як і з іншымі творцамі, атрымаў Дзяржаўную прэмію краіны. Памятны той дзень, калі ён цытаваў мне вершы Петруся Броўкі:

Не пытайся пра гэта,
Бо адказу не дам.
Як зрабіўся паэтам,
Я не ведаю сам.

Ён сам зрабіўся энцыклапедыстам, адзначу — шчырым і верным да скону свайго жыцця, Якуб Адамавіч не аднойчы гаварыў, толькі дзякуючы Пятру Усцінавічу, і пры гэтым ён усхвалявана падкрэсліваў, што той быў жыццялюб і працалюб. Гэта ж мы сёння гаворым і пра самога Якубоўскага.

У сваіх тэлефанаваннях і шматлікіх лістах, якія ўсе я берагу, Я.А. Якубоўскі заўсёды перадаваў мне прыязныя віганні ад свайго сабрата па духу, сябра і рупліўца Ібрагіма Барысавіча Канапацкага, вучонага і арганізатара-дзеяча. Яны абодва як бы дапаўнялі, сагравалі адзін аднога і рабілі вялікі ўплыў на ўсё Беларускае згуртаванне татараў-мусульман. Якуб Адамавіч меў вялікі ўплыў на шматлікіх вучоных і ганарыўся добрымі адносінамі і сяброўствам з імі. Сярод іх быў, зараз таксама нябожчык, прафесар Эрнст Аркадзевіч Ляўкоў, аўтар славутай кнігі "Маўклівыя сведкі мінуўшчыны". Любіў Якуб Адамавіч гумар, жарты, прымаўкі і прыказкі, якімі ён адорваў багата сяброў і аднадумцаў.

Свой лёс і свае творчыя здабыткі Якуб Адамавіч шчасліва звязаў з аднадумцам і цудоўнай жанчынай, якая стала не толькі сябрам і жонкай яго жыцця, маці іх дзяцей, але і саўдзельніцай яго быцця. Таццяна Васільеўна, як і ён, вучоная, энцыклапедычна адукаваны чалавек!

Нарадзіўся Якуб Адамавіч у 1932-м, высакосным годзе, у панядзелак. Памёр творца 14 верасня 1998 года — таксама быў панядзелак. У першы дзень тыдня ён прыйшоў у свет і ў гэты ж дзень назаўсёды пакінуў яго, каб адысці ў царства свайго бацькі Адама Мустафавіча, маці Раісы Хасенеўны, іншых добрых людзей.

Адышоўшы ў іншы, лепшы свет, Якуб Адамавіч Якубоўскі разам з тым і назаўсёды застаўся з намі. Аб гэтым сведчыць усё яго яркае і незабыўнае жыццё.

**М. Маліноўскі.**

***

# КОГДА УХОДИТ ИЗ ЖИЗНИ ДОРОГОЙ ТЕБЕ ЧЕЛОВЕК

## (Памяти Якуба Адамовича)

Чувство невосполнимой потери рождается не сразу, не сразу укладывается в сознании его уход. Сначала появляется чувство вины: ты живёшь, жизнь продолжается, и её скупые радости и щедрые огорчения уже нельзя разделить с ним. Нельзя обменяться интересной информацией обо всём на свете, нельзя получить жизненно важный совет на все случаи, нельзя ощутить единственную надёжную поддержку и опору в трудные твои минуты и часы. И уже никогда не услышишь: "Когда придёшь Юрасек, чтобы па-трымацца за твою пуговицу". Только сейчас понимаешь, что за пуговицу, как за своё спасение, надо было держаться тебе самому. И с очевидным опозданием приходится сожалеть и раскаиваться, что разменял возможные богатые часы общения с ним на свои дежурные бытовые заботы, пустую болтовню, суету сует вокруг малого и такого сейчас ненужного.



А ведь общение с Якубом Адамовичем заменяло многочасовое чтение книг, просмотр фильмов, слушание лекций. Можно смело сказать, не боясь банальностей, что это был университет знаний, энциклопедия информации, академия жизни. Создавалось впечатление, что он знает всё и вся. И в то же время это был постоянный генератор идей и замыслов в самых различных, порой неожиданных областях природоведческих, гуманитарных, общественных наук. И никогда никакие бюрократические преграды, ни расстояния не мешали ему донести до тебя, до других свою очередную интересную, остроумную, нередко парадоксальную идею.

Он не стал учёным в формальном смысле этого слова, не получил (да и не хотел, вероятно) таких вожделенных и престижных

в былые времена (да и сейчас) степеней и званий, но его авторитет был значительно выше многих докторов наук и академиков, а знания значительно превосходили их накопленный за много лет научный багаж. И многие известные и менее известные имена обязаны своим восхождением на научный пьедестал его идеям и проектам.

Он был человеком высоких нравственных качеств. Подлинная честность, редкая порядочность, необычайно сильно развитое чувство долга выделяло его и в пресловутые застойные годы, и в горлопанно-перестроечное время, и в трудные, почти потерянные моменты возрождения национального самосознания и самобытности каждого народа. Он был совестью тех коллективов, в которых ему довелось учиться или работать, — в школе, на географическом факультете, в почвенных отрядах, в редакционных отделах издательства Белорусской Энциклопедии. Дисциплинированность и исключительная исполнительность его шли не от духа времени, они были его сутью. Он не мог позволить себе опоздать на работу или раньше уйти, как бы ни оправдывали многие подобное мизерными размерами жалованья. Работа для него всегда была работой, даже если в ней не всегда был сразу виден определённый смысл. Работоспособность и трудолюбие его поражали, а ведь у него давно были нелады со здоровьем, плохо было со зрением. Он не мог, например, работая на полевой почвенной съёмке, пропустить хотя бы один самый малый контур и не заложить на нём контрольного почвенного разреза (хотя инструкции допускали экстраполяцию, а жёсткие нормативы не позволяли тщательно провести обследование), и поэтому составленные им почвенные карты отличались детальностью и точным воспроизведением натуры, не потеряли своей актуальности и ценности и в нынешние дни.

Работая в редакции Энциклопедии, он с головой окунулся в регулируемую стихию издательского дела и нашёл здесь истинное призвание и достойное воплощение своих многочисленных идей и замыслов. Здесь его многогранный талант был незаменим.

Он любил и тонко чувствовал природу, точно определял место человека в ней. Знал одинаково хорошо и удалённые уголки, и близкие окрестности. На фотографиях, которые он выполнял высокопрофессионально и с мягкой лиричностью, запечатлелись лица детей, фигуры людей в различных позах, скромные белорусские ландшафты.

Он любил и ценил книги, собрал богатейшую и разнообразную библиотеку — книги по истории, философии, археологии, географии, ботанике, зоологии, филологии соседствовали с энциклопедиями, справочниками, словарями, определителями. А еще в ней нашла место классическая поэзия и проза разных эпох и народов. Особенно любил и понимал он поэзию античного мира и древнего Востока. Память у него была исключительная, он мог долго наизусть читать элегии Овидия, рубайи Омара Хайяма, многое другое, в том числе на языке подлинника. Кстати, он хорошо владел немецким и польским языками и, будучи татарином, великолепно знал и прекрасно говорил на русском и белорусском языках. Более того, он всегда подчёркивал ещё в те далёкие времена, когда (как, впрочем, и сейчас) говорить на белорусском языке было и вызывающе, и даже опасно, что белорусский язык — чистый и благородный, и что язык народа, на землю которого вы пришли и живёте, обязаны знать, если уважаете этот народ.

Он тонко чувствовал душу этого народа, с болью сопереживал его нелёгкой судьбе, всегда поддерживал обиженных и обездоленных. Он очень много сделал, намного больше, чем, как сказал президент географического общества Беларуси профессор В.С. Аношко, целые рабочие и творческие коллективы, чтобы возвеличить дух, воссоздать историю, привлечь внимание к самобытной культуре, помочь издать и популяризировать выдающиеся памятники языка, литературы, искусства белорусского народа. Он относился к этому с равным усердием и добросовестностью, как к возрождению своего собственного татарского народа, великим сыном которого он был. В то же время его симпатия и поддержка всегда были на стороне любого малого народа, угнетаемого и порабощённого большим народом. Вот почему он был одним из немногих, кто выступил в 1995 г. на общегородском митинге в Минске в защиту чеченского народа.

Он был прекрасным полемистом. Его логика была безупречна, доводы и аргументы неотразимы, блестящие сравнения и яркие эпитеты пронизывали речь, производя сильное впечатление на собеседников и слушателей. У него было богатое чувство юмора (которое унаследовали его дети), не обижающее людей и разряжающее напряжённую обстановку. У него были огромные запасы мужества, помогающие ему с достоинством переносить выпавшие на его долю невзгоды и беды, а в конце жизни — страшные боли

смертельной болезни. Он оставил талантливых, интеллигентных и интересных детей и вдову, верного друга и настоящую жену.

Он был несомненно выдающейся личностью и человеком, всю тяжесть потери которого вряд ли можно осознать в ближайшее время. Он слишком рано ушёл, когда так был нужен всем нам. Слишком несправедлива судьба, если уходят такие люди. Но он был и жил среди нас. И спасибо тебе за это, наш дорогой Якуб Адамович, и прости, что мы ещё живы.

**Ю. Качков.**

***



*Я.Якубоўскі пад час сустрэчы з аспіранткамі з Марока і Францыі*

# НЕ СТАЛА НАШАГА ЗАВЯРШАЮЧАГА

Калі развіццё нацыі на ўзроўні вуснай перадачы з пакалення ў пакаленне сваіх духоўных каштоўнасцей вычарпана, на дапамогу прыходзіць друкаванае слова. Пасля "Кітабаў" далей праз стагоддзі татары-мусульмане захоўвалі сваю еднасць на новай Радзіме дзякуючы адзінай кнізе — Свяшчэннаму Кур'ану. Яго моц і яго вечныя словы далі магчымасць татарскаму народу не згубіць сябе, яны былі падтрымкай у кожны дзень і ў кожнай падзеі.

З часоў "Кітабаў" "Байрам" — першае друкаванае слова татараў Беларусі. Якуб Адамавіч не толькі даў жыццё нашаму часопісу і ўсяліў у яго душу. Ён быў вельмі добрым бацькам. Ён ні на нумар не пакідаў без увагі сваё дзецішча ўсе шэсць гадоў, адведзе-



*Апошнія дні (у 6-й клініцы).*
*У цэнтры — Я. Якубоўскі, злева ад яго — жонка Тацяна Васільеўна, справа — Ян Сабалеўскі*

ных яму лёсам. Менавіта першыя гады асабліва вызначальныя для фарміравання асабовых якасцей. За гэты непрацяглы час часопіс не проста стаў на ногі, ён стаў прадстаўніком нашага Згуртавання, разумным і шчырым. Паступова вызначаліся раздзелы. Змяшчаліся найперш пераклады Кур'ана на беларускую мову, артыкулы з будучага энцыклапедычнага даведніка, матэрыялы канферэнцый. Якуб Адамавіч заўсёды прасіў паведамляць з месцаў наступнае: дадзены азан, узялі шлюб, віншаванні з юбілеямі, а таксама жалобныя весткі. Такія традыцыйныя рубрыкі вельмі кранаюць, бо менавіта з гэтага складаецца жыццё.

Яго адчуванне важнасці для гісторыі самых разнастайных сведчанняў было надзвычай абвостраным. Ён не стамляўся іх збіраць, прыцягваў да гэтай справы многіх. Не пакінуў без увагі не толькі мяне, маю маму, але і маю падрастаючую дачку. І менавіта ёй выпала апошняй з нашай сям'і сустрэцца з Якубам Адамавічам, каб перадаць складзеныя маёй мамай спісы ўдзельнікаў цырымоніі адкрыцця мячэці ў Навагрудку. Як звычайна, Якуб Адамавіч прыехаў на трамвайны прыпынак каля нашага дома. Гэтае месца для сустрэч было вызначана ім самім яшчэ ў той час, калі ён жыў недалёка. Ён не прызначыў новага месца, а было ўжо лета, апошняе лета яго жыцця, і яго ногі былі такія слабыя. Прабачце нам, Якуб Адамавіч. Ваша хвароба прагрэсіравала вельмі хутка, а ў нашым уяўленні Вы былі здаровым і жыццядзейным. Таму калі не стала айца Яна Матусевіча — вечны пакой яму ў царстве Божым, — і я збіралася ісці на яго пахаванне на Кальварыйскія могілкі, першым, пра каго я ўспомніла, быў Якуб Адамавіч. Хоць мы ніколі не гаварылі аб той падвіжніцкай справе, якую здзейсняў айцец Ян, але, на мой погляд, яны з Якубам Адамавічам былі вельмі блізкія духам, падобныя ў самаахвярнасці і падобныя нават знешне, і я ведала, як любіць Якуб Адамавіч Беларусь, як шануе яе гісторыю і яе лепшых людзей. Гэта ён некалі патэлефанаваў мне і сказаў пра адно з першых святкаванняў угодкаў Грунвальдскай бітвы. Мы пайшлі, каб разам з беларусамі схіліць галовы ў знак удзячнасці за мужнасць і нашых, татарскіх ваяроў, коннікаў, выступаўшых наперадзе войска Вялікага княства Літоўскага.

А пасля мы былі разам на сустрэчах сяброў менскай суполкі Згуртавання навагрудцаў свету. У падобных выпадках ён характэрным і вельмі адметным гумарам, за якім была шчырасць і

адкрытасць, казаў: "Такім чынам, тут прадстаўлены ўсе татары: ад А (Александровіч) да Я (Якубоўскі)". І гэта быў не толькі жарт. Ён вельмі стараўся падтрымліваць добразычлівыя адносіны да нашага на Беларусі нешматлікага народа. Ён быў вельмі ўдзячны прадстаўнікам іншых нацыянальнасцей, а найперш гаспадарам гэтай зямлі, за ўсякую добрую справу ў адносінах да татараў. Марыў аб заснаванні спецыяльнага знака "Заслужаны перад татарамі".

Ён умеў бачыць і шанаваць кожнага чалавека. Пачуўшы ад некага аб няпростым лёсе пажылой наваградчанкі па прозвішчы Ассановіч, ён прыехаў у Наваградак, каб самому пачуць яе аповяд. Жанчына дажывала свой век у сям'і прыёмнай дачкі, якую выхоўвала з маленства. А з далёкай Англіі ў Наваградак ішлі пасылкі і лісты ад нявесткі, з якой яны ніколі не бачыліся. Дзвюх жанчын аб'яднаў дарагі ім мужчына: адной — сын, а другой — муж. Малады Ассановіч паехаў перад вайной у Боснію, вучыцца на мусульманскага святара, малну. Вайна абрала яму новы дом, а пасля і месца вечнага спачыну. Засталася нявестка, для якой маці мужа з далёкай Беларусі была адзінай сувяззю з яе каханым. Хоць так яна старалася аддзячыць свекрыві за сына. Але ж гэта апошнія гады з жыцця спадарыні Ассановіч, а колькі было ўсяго... І ніяк не думаў Якуб Адамавіч, што перад ім адна з яго хоць і не родных, але жывых бабуль. З тае пары пачалі ўсе тры браты Якубоўскія праз маю маму перадаваць у Навагрудак грошы для сваёй бабулі.

Ведаю таксама пра пакуль не здзейсненае жаданне Якуба Адамавіча: запісаць успаміны яшчэ адной наваградчанкі, якая ў сваёй маладосці ўваходзіла ў склад жаночай каманды па стральбе з вінтоўкі і была адзначана як меткі стралок.

Ніколі не забуду, як ён быў заклапочаны, калі з адной з газет, вырашыўшы, што так будзе па адрасе, яму перадалі ліст дзяўчыны-сіраты. Яна выхоўвалася ў школе-інтэрнаце, пасля пачала працаваць і зноў жыла ў інтэрнаце. Мела праблемы ва ўзаемаадносінах з суседкамі па пакоі, бо не падзяляла іх звычак. Як ён шукаў найлепшы, найбольш далікатны і, па магчымасці, дзейсны сродак дапамогі сіраце! А гэта адна з запаведзяў Кур'ана. Ён жа ніколі не назваў сябе дасканалым у гэтым сэнсе. Рабіў вялікае, а лічыў сябе самым звычайным. Але часам, гледзячы, як ён сціпла сядзіць у незаўважным куточку, прыйшоўшы не сябе паказаць, а паслухаць іншых, міжволі адчувалася яго велічнасць і нейкая адарванасць ад

зямных турбот. А магчыма, ён адчуваў сваю блізкасць да вечнасці? Калі казаць пра пазначаных Богам, то ён адзін з іх. Я бачу нават магічнасць у адмераных яму гадах зямнога жыцця. Якуб Адамавіч пражыў як мінімум два жыцці. Іх працягласць можа быць шэсцьдесят і шэсць, апошнія — праца над "Байрамам". Гэта можа быць і два разы па трыццаць тры. Але галоўнае, напэўна, тое, што ён здолеў у сваім жыцці гарманічна аб'яднаць у адно жыццё татарына па спадчыннасці і грамадзяніна Беларусі па адданасці нашай зямлі. І таму страта гэтага незаменнага чалавека аднолькава цяжка перажываецца татарскай і беларускай супольнасцю. Перажывае адыход Якуба Адамавіча ад нас кожны, хто ведаў яго асобна. Сярод іх і мы, Вашыя, Якуб Адамавіч, Эльвірачка, Розачка і Анжэлічка. Так Вы называлі нас. Дзякуй Вам за гэта. Дзякуй за Вашыя тэлефанаванні, дзякуй за віншаванні са святамі, дзякуй за Ваша заўсёднае ўставанне і прапанову сесці, хоць не тое што стаяць, проста ўстаць з крэсла Вам было нялёгка. Прабачце, калі чым пакрыўдзілі Вас. Мы Вас вельмі паважалі, заўсёды пазнавалі Ваш голас. Мы Вас ніколі не забудзем.

Ад імя сваёй сям'і — **Разалія Александровіч.**

***

# СЯМ'Я ЯКУБОЎСКІХ НА РАЗДАРОЖЖЫ XX СТАГОДДЗЯ

*Артыкул падрыхтаваны братам Якуба Якубоўскага, Адамам Якубоўскім. У ім апісаны лёс некалькіх пакаленняў з адной сям'і, ад прадзеда да ўнукаў, і паказана, як нялёгкія павароты гісторыі ў XX стагоддзі паўплывалі на вялікую радню. Можна сцвярджаць, што тут адбілася гісторыя многіх сем'яў з Заходняй Беларусі, тэрыторыя якой неаднаразова за стагоддзе пераходзіла пад уладу розных дзяржаў.*

Да канца падыходзіць XX стагоддзе. Ужо можна пачуць па радыё, а то і прачытаць, колькі дзён засталося да канца гэтага века. І больш чым шэсць дзесяткаў гадоў пражыў у гэтым стагоддзі я сам. З'явілася жаданне падзяліцца з людзьмі, як цяг часу ў век даўжыні адбіўся на лёсе адной татарскай сям'і на зямлі колішняга Вялікага княства Літоўскага, або "Северо-Западного края", або "крэсов всходніх", бо мянялася ўлада, прыходзілі розныя гаспадары, а ў татарскіх сем'ях трымаліся свайго парадку жыцця. Гадаваліся працавітыя і сумленныя дзеці, зычлівыя і паважлівыя да тых, хто жыў разам з імі, побач.

Я з'явіўся на свет у сям'і пятым, але гадаваўся толькі трэцім. А ўсяго нас вырасла ў бацькоў чацвёра. Здарылася так, што самы старэйшы брат, Косця, у 17 гадоў у студзені 1945 г. быў узяты ў войска і доўгія шэсць гадоў заставаўся там. Старэйшы брат, Якуб, абставінамі жыцця вымушаны быў рана пайсці з роднае хаты на свой хлеб, а меншы, Браніслаў, і я заставаліся ў хаце. Маці часта хадзіла на мізар, бо там былі пахаваны мая сястра і два браты, мае дзве бабулі і дзядуля. Мне не давялося пабачыць іх жывымі, бо на свет я з'явіўся намнога пазней, чым яны адыйшлі ад нас назаўсёды. Да мізара ісці было далёка, і ў час гэтых паходаў маці заўсёды ўспамінала пра родных, пра розныя падзеі ў іх жыцці. Мяне заўсёды цікавіла гісторыя нашага роду, і вось якая яна атрымалася з таго, што я пачуў і запомніў у часы тых паходаў.

*Браты Якубоўскія: сядзяць (злева направа) Хасень, Адам, стаяць Якуб, Ібрагім. 1962 г.*

Мой дзядуля па бацьку, Сцяпан, у 1900 годзе павінен быў пацвердзіць сваё шляхецтва, а заадно і адведаць свайго дзеда ў Менску. На пасяджэнні камісіі дзеду зрабілі папрок, што не мае ахвоты ісці служыць у войска і не бярэ прыклад ад свайго блізкага родзіча-генерала. Неўзабаве, у 1902 годзе, з'явіўся на свет мой будучы бацька. А ў



*Якуб Якубоўскі з аднакласнікам Мечыславам Прэткелем*

1903 годзе на другой вуліцы ў тым жа пасёлку нарадзілася і мая будучая матуля.

Прайшло не так многа гадоў, і грымоты Першай сусветнай вайны дакаціліся да Браслаўшчыны. Старэйшым трэба было вырашыць, як ратавацца ад гэтай бяды. Сям'я бацькі была больш заможнай — мела ў гаспадарцы добрага каня і ўсё астатняе, што патрэбна. І калі зусім блізка да пасёлка падышоў фронт, то мой дзядуля са сваёй сям'ёй хуценька накіраваўся сваім ходам да Полацка. Там бежанцаў уладкоўвалі на цягнікі і везлі ў той край, які яны самі абіралі для жыцця. Так сям'я бацькі апынулася ў Казані. Дзед па тым часе быў адукаваным чалавекам і адразу ўладкаваўся на працу чыноўнікам на пошце, а мой бацька прадоўжыў вучэнне ў гімназіі.



*Адам і Якуб Якубоўскія. 1957 г.*

А сям'я маці не мела магчымасці ўцячы ад навалы: была вельмі хворай мая прабабка — ёй у той час было ўжо за 90 гадоў. Калі немцы занялі пасёлак, адбылася стабілізацыя фронту, і аж на тры гады пасёлак стаў пярэднім краем — франтавой лініяй. Ад забудоў нічога не засталося, толькі да гэтага часу стаяць нямецкія доты з бетону, ды зямля не змагла загаіць раны ад траншэйных рубцоў, месцамі добра відаць іх зігзагі.

Нямецкае ваеннае камандаванне вырашыла высяліць цывільных людзей з франтавой зоны і вельмі марудна павезла небарак на захад. Так мая маці, яе бацькі, бабуля і старшая сястра з дзецьмі апынуліся ў Літве, недалёка ад Шаўляя. Першыя месяцы бежанцы хвацілі ліха, голаду і холаду. Першай не вытрымала голаду мая прабабка, на 93 годзе жыцця ціха ноччу адышла ў другі свет. Гэта была ўжо не першая страта з майго роду на доўгім шляху XX стагоддзя. У тых мясцінах

жыло аднароднае насельніцтва, і ніякай іншай мовы, акрамя летувіскай, не ўжывалі. Такія абставіны вельмі ўскладнялі жыццё бежанцаў. Але мая будучая маці вельмі хутка навучылася размаўляць на мове летувісаў і была ў хаце перакладчыкам. А дзядуля быў добрым шорнікам. З'явіліся нейкія заказы, і патроху наладзілася жыццё, можна было адкласці крыху грошай на "чорны дзень".

Закончылася вайна, і пацягнула людзей на Радзіму, аднак вельмі цяжкі і доўгі шлях выпаў на долю маіх родных. Толькі ў 1921 годзе дабраліся яны ў пасёлак, але не ўсе. Засталася ў Літве мая цётка з дзецьмі, бо не ведала лёсу свайго мужа, узятага ў дзеючую армію ў 1914 годзе. Пазней стала вядома, што застаўся жывы ён у той бойні, але атручаны газамі і нядоўга пажыў. Не вытрымала доўгай і цяжкай дарогі бабуля — не даехала ўсяго нейкіх 30 кіламетраў да родных мясцін. І на Радзіму дабраліся мая маці і дзядуля — толькі двое з вялікай сям'і. Жыллём ім стаў на некалькі гадоў дот з бетону.

А мае родныя па бацьку ў гэты час рыхтаваліся ў шлях на Радзіму з Казані. Чорная іспанка не пашкадавала маіх старэнькіх прадзеда і прабабку — навекі засталіся ў зямлі, якая дала прытулак ім на шэсць гадоў.

Так праз многа гадоў сустрэліся на роднай зямлі мае будучыя бацькі. І першая праца, што знайшлася ў гэтым зруйнаваным вайной краі, быў збор з франтавых палёў калючага дроту. Амаль на год "калючка" стала карміцелькай многіх людзей.

Ішлі гады, наладжвалася жыццё, нараджаліся дзеці. Збудавалі бацькі добрую хату, завелі гаспадарку. А ў 1939 годзе ў верасні зноў змянілася ўлада. Прыход Чырвонай Арміі вельмі добра адбіўся мне ў памяці.

Зусім хутка яшчэ адзін дзень стаў такім жа памятным. Мы жылі ў мястэчку Камаі, а недалёка Паставы, дзе быў ваенны аэрадром. Раніца 22 чэрвеня данесла да нас выбухі бомб, выццё матораў бамбардзіроўшчыкаў. А праз некалькі дзён пачалі ісці разутыя і галодныя салдаты. Маці кожную ноч пякла хлеб, каб удзень раздаць галодным байцам. Вельмі добра запомніўся невялікі атрад, які прыпыніўся ля нашай хаты. Вялікі зялёны двор і студня з жураўлём прыцягвалі людзей да адпачынку. І

калі маці вынесла з хаты бохан і падала камандзіру, — ён папрасіў яе саму падзяліць гэты хлеб на ўсіх.

А яшчэ праз некалькі дзён пракаціліся немцы. Па начах ішлі людзі, і не адзін раз мой старэйшы брат Якуб праводзіў іх у абход камендатуры.

7 лістапада 1943 года ў вялікае вогнішчаператварылася наша хата, і не толькі наша, а і многіх іншых. І мы, тры старэйшыя браты, некалькі дзён прыходзілі на папялішча сілкавацца печанай бульбай і тушанай капустай.

Не абышоў лёс наш род і ў Другой сусветнай вайне. Няведама дзе і калі загінулі мой дзядзька па бацьку Якуб і стрыечны брат Аляксандр. На другі дзень вайны быў забіты ў Літве стрыечны брат Мустафа. Загінуў у баі пры штурме горада Марыенбург (цяпер у Польшчы, завецца Мальборк) 5 сакавіка 1945 года стрыечны брат Адам. Там ён і пахаваны.

А жыццё раскідала нас усіх па вялікай краіне. У Вільні на мізары пакоіцца мой дзед Сцяпан. Старэйшы брат Косця шмат гадоў пражыў у Варкуце — здабываў вугаль, будаваў дамы. Яго няма ўжо ў жывых, але там засталася малодшая дачка і ўнук. Старэйшая дачка будавала Ігналінскую атамную станцыю. Зараз яна там і жыве. У Пецярбургу жывуць тры сыны забітага брата Мустафы, а ў Котласе — стрыечны брат Андрэй. У Менску жыве і працуе дачка брата Якуба, тут жывуць яго ўнучкі, а сын яшчэ вучыцца ў Маскве.

А з вялікай калісьці сям'і нас засталося двое. Малодшы брат, Браніслаў, жыве і працуе ў Віцебску.

Сам я ўжо сорак гадоў жыву і працую ў Калінінградзе. Тут выраслі два мае сыны і дачка, гадуюцца ўнукі і ўнучка. Але ўсе мае нашчадкі ведаюць, дзе жылі і пахаваны іх родныя, кім яны былі, як жылі. А калі мяне пытаюць, хто я такі і адкуль, то крыху ўжарт адказваю: "Я самы заходні беларускі татарын".

**А. Якубоўскі.**

***

# МЫ З ІМАНАМ ЖЫВЁМ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ

**Я. Якубоўскі.**
**Муз. Дз. Мазітавай.**

Мы з Паволжа і Крыма з Іманам прыйшлі
На гасцінныя землі Літвы й Беларусі.
Пад Грунвальдам суровы экзамен здалі
Й уланскую службу няслі без прымусу.

*Рэфрэн:* Ляй лагу іллялагу, Мухамед расул Аллагу,
Ляй лагу іллялагу, Мухамед расул Аллагу.

Мы зляпілі дамы, пры ауле сваю
Для малебнаў Аллаґу мячэць збудавалі.
Нарадзілі дзяцей, асвяцілі зямлю
І ў яе па Ісламу памерлых хавалі.

*Рэфрэн.*

На прызыў спадара ў любую пару
Батыры сваіх коней сядлалі.
Жонак бралі сваіх, каб варылі яду
Й знявечаных у баях даглядалі.

*Рэфрэн.*

Служба цяжкай была, у суровых баях
Шмат галоў маладзецкіх паклалі.
За адвагу і мужнасць татарскім сынам
Каралі прывілеі давалі.

*Рэфрэн.*

Йшлі гады, і нашчадкі татар-мусульман
Беларускую мову з павагай прыдбалі.
Але веру ў Аллаґа — свяшчэнны Іман
Мы на векі вякоў захавалі.

*Рэфрэн.*



# МЫ С ИМАНОМ ЖИВЁМ НА ЗЕМЛЕ БЕЛАРУСИ

**Я. Якубовский.**
Перевод с белорусского **Л. Ажгиревич.**

Мы с Поволжья и Крыма с Иманом пришли
В край Принеманский — тот, что раскинулся вольно.
При Грюнвальде кровавую битву вели
И военную службу несли добровольно.

*Рефрен.*

Мы слепили дома, при ауле своём
Для молебнов Аллаху мечеть сотворили.
Народили детей, освятили землю,
По Исламу умерших в неё хоронили.

*Рефрен.*

На призывы князей и в любую беду
Мы коней своих спешно седлали.
Женщин брали своих, чтоб варили еду,
Потерпевших в боях опекали.

*Рефрен.*

Служба трудной была, и суровым боям
Батырей мы отдали немало.
За отвагу и дерзость татарским сынам
Короли нам награды давали.

*Рефрен.*

Шли года, и потомки татар-мусульман
Взяли речь белорусов, свою позабыли.
Только веру в Аллаха — священный Иман
Мы на веки веков сохранили.

*Рефрен.*

***

**У імя Аллаха Міласцівага, Міласэрнага !**

# ЗАПАВЕТ СТАРОГА ТАТАРЫНА

Мой дзед Мустафа родам з татарскай вёскі Немеж, што каля Вільнюса. Ён у 1897 г. быў ужо дзяцюком і памятае: татары тады, у 500-годдзе пасялення татараў у Вялікім княстве Літоўскім, клапаціліся пра тое, каб устанавілася справядлівасць, і Вітаўта прызналі каралём, бо ён быў абраны на гэту пасаду, але па віне нядобрых людзей не атрымаў кароны. Татары казалі, што каб яны былі ў эскорце, калі везлі сімвалы каралеўскай улады, якія перадаў папа Марцін V (пам. 1431), то яны даставілі іх па прызначэнні. Гісторыя ведае выпадкі, калі татары выратавалі караля Рэчы Паспалітай ад смяротнай небяспекі.

Толькі ў 1897 г. татары не змаглі гучна сказаць пра тое, што Гаспадар, Ваттад, Хан Вітаўт, як яны яго называлі, не быў прызнаны каралём.

Дзед мне казаў: "Можа ты дажывёш да таго часу, калі будуць разумнейшымі правіцелі і пра Вітаўта можна будзе гаварыць як пра караля. Скажы аб гэтым, бо тады і татары з гогнарам скажуць, што нас запрасіў на службу Кароль Вітаўт".

Стала вольнай Літва, стала вольнай Беларусь. На пасадзе рымскага папы — паляк. Ён разумее, што калісьці была нанесена вялікая крыўда, у выніку якой Вітаўт не атрымаў кароны.

Татары Беларусі, татары Літвы, свядомыя беларусы выкажуцца за тое, каб праўда, справядлівасць, нарэшце, перамагла. Можа быць татары Польшчы і не могуць выказацца за гэту прапанову, бо іх не зразумеюць некаторыя палякі.

А ці трэба такі акт, даўно было…

Толькі гісторыкі могуць згадаць, як была спалена Жанна д'Арк, абвінавачаная ў вядзьмарстве, але цяпер ужо лічыцца святой. Пасля смерці і не адразу генерал французскай арміі Дэлятур дэ Тасін'і быў абвешчаны маршалам Францыі.

Калі будуць рабіць карону, якую ў пачатку XV стагоддзя па тагачаснай традыцыі даваў каралям папа, то я думаю, што ў знак павагі для яе прыгожы рубін падаруюць беларускія і літоўскія татары.

Няхай у канцы XX стагоддзя запануе праўда і згода.

***

# КУР'АН

## Сура дзесятая — Йунус

۞ وَٱتۡلُ عَلَيۡهِمۡ نَبَأَ نُوحٍ إِذۡ قَالَ لِقَوۡمِهِۦ يَٰقَوۡمِ إِن كَانَ كَبُرَ عَلَيۡكُم
مَّقَامِي وَتَذۡكِيرِي بِـَٔايَٰتِ ٱللَّهِ فَعَلَى ٱللَّهِ تَوَكَّلۡتُ فَأَجۡمِعُوٓاْ
أَمۡرَكُمۡ وَشُرَكَآءَكُمۡ ثُمَّ لَا يَكُنۡ أَمۡرُكُمۡ عَلَيۡكُمۡ غُمَّةٗ ثُمَّ ٱقۡضُوٓاْ
إِلَيَّ وَلَا تُنظِرُونِ ﴿٧١﴾ فَإِن تَوَلَّيۡتُمۡ فَمَا سَأَلۡتُكُم مِّنۡ أَجۡرٍۖ إِنۡ
أَجۡرِيَ إِلَّا عَلَى ٱللَّهِۖ وَأُمِرۡتُ أَنۡ أَكُونَ مِنَ ٱلۡمُسۡلِمِينَ ﴿٧٢﴾
فَكَذَّبُوهُ فَنَجَّيۡنَٰهُ وَمَن مَّعَهُۥ فِي ٱلۡفُلۡكِ وَجَعَلۡنَٰهُمۡ خَلَٰٓئِفَ
وَأَغۡرَقۡنَا ٱلَّذِينَ كَذَّبُواْ بِـَٔايَٰتِنَاۖ فَٱنظُرۡ كَيۡفَ كَانَ عَٰقِبَةُ ٱلۡمُنذَرِينَ
﴿٧٣﴾ ثُمَّ بَعَثۡنَا مِنۢ بَعۡدِهِۦ رُسُلًا إِلَىٰ قَوۡمِهِمۡ فَجَآءُوهُم بِٱلۡبَيِّنَٰتِ
فَمَا كَانُواْ لِيُؤۡمِنُواْ بِمَا كَذَّبُواْ بِهِۦ مِن قَبۡلُۚ كَذَٰلِكَ نَطۡبَعُ عَلَىٰ قُلُوبِ
ٱلۡمُعۡتَدِينَ ﴿٧٤﴾ ثُمَّ بَعَثۡنَا مِنۢ بَعۡدِهِم مُّوسَىٰ وَهَٰرُونَ إِلَىٰ
فِرۡعَوۡنَ وَمَلَإِيْهِۦ بِـَٔايَٰتِنَا فَٱسۡتَكۡبَرُواْ وَكَانُواْ قَوۡمٗا مُّجۡرِمِينَ ﴿٧٥﴾
فَلَمَّا جَآءَهُمُ ٱلۡحَقُّ مِنۡ عِندِنَا قَالُوٓاْ إِنَّ هَٰذَا لَسِحۡرٞ مُّبِينٞ ﴿٧٦﴾
قَالَ مُوسَىٰٓ أَتَقُولُونَ لِلۡحَقِّ لَمَّا جَآءَكُمۡۖ أَسِحۡرٌ هَٰذَا وَلَا يُفۡلِحُ
ٱلسَّٰحِرُونَ ﴿٧٧﴾ قَالُوٓاْ أَجِئۡتَنَا لِتَلۡفِتَنَا عَمَّا وَجَدۡنَا عَلَيۡهِ ءَابَآءَنَا
وَتَكُونَ لَكُمَا ٱلۡكِبۡرِيَآءُ فِي ٱلۡأَرۡضِ وَمَا نَحۡنُ لَكُمَا بِمُؤۡمِنِينَ ﴿٧٨﴾

**55.** А калі б у кожнай душы, якая несправядлівая, было ўсё, што на зямлі, яна б выкупіла сябе гэтым; яны затаілі раскаянне, калі ўбачылі пакаранне. Вырашана паміж імі будзе па справядлівасці, і яны не будуць пакрыўджаны.

**56.** О, так, сапраўды Аллагу належыць тое, што ў нябёсах і на зямлі! О, так, сапраўды абяцанне Аллага — ісціна, але большасць іх не ведае!

**57.** Ён ажыўляе і ўмярцвяе, і да яго вы будзеце вернуты.

**58.** О людзі, дайшло да вас павучанне ад вашага Госпада і вылячэнне ад таго, што ў (вашых) грудзях, і просты шлях і міласць вернікам.

**59.** Скажы: "Па дабрыні Аллага і па Яго міласці, — гэтаму няхай яны радуюцца. Гэта лепш таго, што яны збіраюць".

**60.** Скажы: "Ці бачылі вы тое, што дараваў вам Аллаг з пракармлення, а вы зрабілі з яго забароненае і дазволенае?" Скажы: "Ці дазваляў Аллаг вам гэта, ці ўзводзіце на Аллага хлусню?"

**61.** Якое ж будзе меркаванне тых, хто ўзводзіць на Аллага хлусню, у дзень уваскрашэння? Сапраўды, Аллаг — уладальнік міласці для людзей, але большая частка іх — няўдзячныя!

**62.** У якім бы ты ні быў становішчы і што б ты ні чытаў з Кур'ана, і якую б справу вы ні рабілі, Мы будзем сведкамі пры вас, калі вы паглыбляецеся ў гэта. Не схаваецца ад Госпада твайго вага пылінкі ні на зямлі, ні ў нябёсах, і ні тое, што менш гэтага, і ні тое, што большае, інакш як (гэта —) у кнізе яснай.

**63.** О, так, сапраўды для сяброў Аллага няма страху, і не будуць яны засмучацца.

**64.** Тыя, што ўверавалі і былі набожнымі, —

**65.** для іх — радасная вестка ў найбліжэйшым жыцці і ў будучым. Няма змены словам Аллага, гэта — вялікі поспех!

**66.** Няхай цябе не засмучае іх слова; бо вялікасць — усё Аллагу; Ён чуйны, ведаючы!

**67.** О, так, сапраўды, Аллагу — і той, хто на нябёсах, і той, хто на зямлі! За чым ідуць тыя, хто заклікае, акрамя Аллага,

супольнікаў? Яны ідуць толькі за поглядам; яны толькі мяркуюць.

68. Ён — той, хто стварыў для вас ноч, каб вы спачывалі ў ёй, і дзень, каб ён дапамагаў бачыць. Сапраўды, у гэтым — знак для людзей, якія чуюць!

69. Яны сказалі: "Узяў Аллаг сабе дзіця. Хвала Яму, Ён багаты! Яму належыць тое, што ў нябёсах і на зямлі. Няма ў вас на гэта ніякай улады! Няўжо вы будзеце казаць на Аллага тое, чаго не ведаеце?"

70. Скажы: "Сапраўды, тыя, хто выдумляюць на Аллага хлусню, не будуць шчаслівымі!"

71. Асалода — у тутэйшым свеце, потым — да Нас іх вяртанне, потым дамо Мы ім паспытаць моцнае пакаранне за тое, што яны не верылі.

72. І прачытай ім апавяданне пра Нуха. Вось сказаў ён свайму народу: "О народ мой! Калі цяжкае для вас маё знаходжанне і напамінанне аб знаках Аллага, то на Аллага я разлічваю; аб'яднайце ж вашу справу і вашых супольнікаў, потым няхай ваша справа вас не турбуе, потым судзіце мяне, не давайце мне адтэрміноўкі!

73. А калі вы адхіліцеся, то я сапраўды не прашу ў вас узнагароды, мая ўзнагарода — толькі ў Аллага, і загадана мне давярацца!"

74. Але яны палічылі яго ілгуном, а Мы выратавалі яго і тых, хто з ім, у каўчэгу і зрабілі іх спадкаемцамі. І патапілі Мы тых, якія лічылі хлуснёй Нашы знакі. Глядзі ж, які быў канец тых, каго пераконвалі!

75. Потым пасылалі Мы пасля яго пасланнікаў да іх народа, і яны прыходзілі да іх з яснымі знакамі, але не сталі тыя

такімі, каб увераваць у тое, што лічылі ілжывым раней. Так Мы запячатваем сэрцы тых, што выходзяць за межы!

**76.** Потым Мы паслалі пасля іх Мусу і Харуна да Фір'ауна і яго знаці з Нашымі знакамі, але тыя ўзвысіліся і былі людзьмі грэшнымі.

**77.** А калі прыйшла да іх ісціна ад Нас, яны сказалі: "Безумоўна, гэта — відавочнае вядзьмарства!"

**78.** Сказаў Муса: "Няўжо вы будзеце так казаць пра ісціну, калі яна прыйшла да вас? Хіба вядзьмарства гэта? Не будуць шчаслівымі чараўнікі!"

**79.** Яны сказалі: "Ці не затым ты прыйшоў, каб адвярнуць нас ад таго, у чым мы знайшлі нашых бацькоў, і каб вам двум была веліч на зямлі? — і ні за што мы вам не паверым!"

**80.** І казаў Фір'аун: "Прывядзіце мне ўсякага чарадзея дасведчанага!" А калі прыйшлі чарадзеі, сказаў ім Муса: "Кіньце тое, што вы хочаце кінуць!"

**81.** Калі ж яны кінулі, сказаў Муса: "Тое, што вы зрабілі, — вядзьмарства. Сапраўды, Аллаг знішчыць яго; бо Аллаг не ўчыняе справы распуснікаў!

**82.** І сцвярджае Аллаг ісціну Сваімі словамі, хоць бы і ненавісна гэта было грэшнікам".

**83.** І паверылі Мусе толькі нашчадкі яго народа са страху да Фір'ауна і яго знаці, каб ён іх не выпрабоўваў: бо Фір'аун — вялікі на зямлі, бо ён парушыў межы.

**84.** І сказаў Муса: "О народ мой, калі вы ўверавалі ў Аллага, то на Яго спадзявайцеся, калі вы адданыя!"

**85.** І сказалі яны: "На Аллага мы спадзяемся: Госпадзі наш, не рабі нас выпрабаваннем для людзей няправедных

**86.** і ўратуй нас па Тваёй міласці ад людзей няверных!"

**87.** І навучылі Мы Мусу і яго брата: "Выбірайце для вашага народа ў Місры дамы, і рабіце дамы вашым месцам малітвы, і выстойваце малітву, — і ўзрадуйце вернікаў!"

**88.** І сказаў Муса: "Госпадзі наш! Ты даў Фір'ауну і яго знаці красу і багацце ў гэтым жыцці. Госпадзі наш! Няхай жа яны саб'юцца з Твайго шляху! Госпадзі наш! Знішчы іх багацце, зрабі жорсткімі іх сэрцы, пакуль яны не ўверавалі, пакуль не ўбачаць страшэнную кару".

**89.** Ён сказаў: "Я адказаў на ваш заклік, стойце ж роўна і не ідзіце па дарозе тых, якія не ведаюць".

**90.** І перавялі Мы сыноў Ісра'іла праз мора, а Фір'аун і яго войска пабеглі наўздагон за імі вераломна і варожа. А калі яго дагнаў патоп, ён сказаў: "Верую, што няма бажаства, акрамя таго, у каго веруюць сыны Ісра'іла, і я — з ліку адданых!"

**91.** Так, цяпер! А раней ты не паслухаўся і распаўсюджваў бязбожніцтва.

**92.** І сёння Мы ратуем цябе і тваё цела, каб ты быў сімвалам для тых, хто ідзе за табою. Сапраўды, шмат хто з людзей Нашымі знакамі нядбаюць!

**93.** І Мы пасялілі сыноў Ісра'іла ў паселішчы ісціны і даравалі ім дабро. Яны не рознагалосілі, пакуль не прыйшлі да іх веды. Сапраўды, Гасподзь твой рассудзіць у дзень уваскрашэння у тым, у чым яны рознагалосілі!

# КУР'АН

## Сура Йунус. Аяты 94—109.

**94.** Калі ж ты ў сумненні аб тым, што Мы паслалі табе, то папытай тых, што чытаюць пісанне да цябе. Прыйшла да цябе ісціна ад твайго Госпада; не будзь жа хісткім!

**95.** І не будзь з тых, якія лічаць хлуснёю аяты Аллага, каб не апынуцца з тымі, хто церпіць страту.

**96.** Сапраўды, тыя, над кім апраўдалася слова твайго Госпада, не ўверуюць,

**97.** нават калі прыйшлі б да іх усе знакі, пакуль не ўбачаць страшэннай кары!

**98.** Ці ж было якое-небудзь паселішча, якое ўверавала, і дапамагла яму вера, акрамя народа Юнуса? Калі яны ўверавалі, Мы аддалілі ад іх пакаранне ганьбаю ў гэтым жыцці і далі ім карыстацца да часу.

**99.** А калі б пажадаў твой Гасподзь, тады б уверавалі ўсе, хто на зямлі, разам. Хіба ж ты змусіш людзей да таго, што яны стануць вернікамі?

**100.** Не давядзецца душы ўвераваць, інакш як з дазволу Аллага. І ўскладзе Ён кару на тых, якія не разумеюць.

**101.** Скажы: "Паглядзіце, што на нябёсах і на зямлі!" Але не дапамогуць знакі і вястуны людзям, якія не веруюць!

**102.** Няўжо яны чакаюць чаго-небудзь, акрамя падобных дзён тых, што прайшлі да іх? Скажы: "Чакайце, сапраўды, я з вамі чакаю!"

**103.** Потым Мы ўратуем Нашых пасланнікаў і тых, якія ўверавалі. Так, абавязак для Нас — ратаваць вернікаў!

**104.** Скажы: "О людзі, калі вы ў сумненні ў маёй веры, то я не пакланяюся тым, каму вы пакланяецеся акрамя Аллага, які ўпакойвае вас, і мне загадана быць вернікам!"

**105.** Скіруй свой твар да веры праведнай і не будзь мнагабожнікам!

**106.** І не заклікай акрамя Аллага таго, што не дапаможа табе і не нашкодзіць! А калі ты гэта зробіш, то ты будзеш тады няправедным.

**107.** Калі Аллаг дакранецца да цябе злом, то няма пазбаўлення ад гэтага, акрамя Яго. А калі Ён пажадае табе дабра, то няма таго, хто можа стрымаць Яго міласць. Ён паражае гэтым, каго жадае, з Сваіх рабоў. Ён даруючы, міласэрны!

**108.** Скажы: "О людзі! Прыйшла да вас ісціна ад вашага Госпада; і хто ідзе правільным шляхам, той ідзе на карысць для сваёй душы, а хто заблудзіў, той заблудзіў на шкоду ёй; і я не паручыцель за вас".

**109.** Ідзі ж за тым, што даецца табе, і цярпі, пакуль Аллаг не рассудзіць: бо Ён — лепшы з тых, хто судзіць!

# У імя Аллага Міласцівага і Міласэрнага!

Аллаг Усявышні ў Свяшчэнным Кур'ане гаворыць: "**Ажыўляе мячэці Аллага той, хто верыць у Аллага і Дзень Апошні; тыя, хто адпраўляе Намаз; тыя, якія плацяць Закят, і не баяцца нікога, акрамя Аллага, — такія могуць быць сярод тых, хто дасягае мэты**" (Сура 9, аят 18).

Пасланнік Аллага (Мір яму і міласць Усявышняга Аллага!) гаварыў: "Хто пабудуе мячэць у імя Аллага памерам нават як гняздо птушкі, таму Аллаг пабудуе дом у Раі".

## АДОЗВА

### Дарагія браты і сёстры ў Ісламе!

Мусульманскае рэлігійнае аб'яднанне ў Рэспубліцы Беларусь, Беларускае згуртаванне татараў-мусульман "Аль-Кітаб" і мусульманская абшчына г. Навагрудка звяртаюцца да ўсіх Вас з заклікам прыняць удзел у адбудаванні мячэці, што знаходзіцца ў в. Лоўчыцы Навагрудскага раёна Гродзенскай вобласці.

Лоўчыцкая мячэць з'яўляецца помнікам гісторыі і культуры XVII стагоддзя, адной з самых старажытных драўляных мячэцяў у Еўропе. Мусульманскі прыход у Лоўчыцах быў заснаваны каля 1420 года. Мячэць існавала з 1588 года. Існуючая мячэць была закладзена ў 1688 годзе. У міжваеннай Польшчы Лоўчыцкая мячэць была ўнесена ў збор помнікаў, якія ахоўваліся дзяржавай. У пасляваенны час мясцовыя ўлады не дазвалялі рамантаваць яе, а затым зусім зачынілі. Мячэць знаходзіцца ў напаўразбураным стане: абваліўся купал і дах, згніла падлога. У 1990 годзе Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь выдаткавала сродкі на падрыхтоўку першаснага праекта рэстаўрацыі Лоўчыцкай мячэці. Але далей справа не пайшла.

Мячэць у Лоўчыцах, якая стаіць на дзеючым мізары, з'яўляецца свяшчэнным месцам для ўсіх татараў-мусульман Беларусі. На мізары знаходзіцца магіла легендарнага Эўліі

Кунтуся, а таксама пахаваны выдатныя дзеячы з беларускіх татараў, удзельнікі вызвольных паўстанняў 1794, 1830 і 1863 гг.

Мір ім і міласць Аллага Усявышняга!

Вашы ахвяраванні дасылайце, калі ласка, на рахунак № 3015211640017 у АКБ Белбізнесбанка, г. Мінск, код 739; валютны рахунак № 3015201735011 у АКБ Белбізнесбанка, г. Мінск, код 764 з адзнакай "на адбудову Лоўчыцкай мячэці" альбо на адрас: 231400, г. Навагрудак, вул. Дзяржынскага, 33, старшыні мусульманскай абшчыны г. Навагрудка Шагідзевічу Алі Амуратавічу.

Тэлефоны для даведак:
у Мінску: 261-84-93; 262-35-41; 265-86-66.
у Навагрудку: 8-01597 2-07-83.



*Мячэць у Лоўчыцах (сучасны выгляд)*

Председателю
Государственного Комитета
по делам религий и национальностей
Республики Беларусь
**А.Н. Билыку**

**Уважаемый Александр Николаевич! Мир Вам!**

Мусульманское религиозное объединение в Республике Беларусь и Белорусское объединение татар-мусульман "Аль-Китаб" выражают Вам, а в Вашем лице — Государственному Комитету по делам религий и национальностей Республики Беларусь сердечную признательность и благодарность за многогранную и бескорыстную помощь белорусским татарам. Благодаря этой помощи наш народ постепенно возрождается и обретает своё национальное самосознание, получает дальнейшее развитие мусульманская религия и культура белорусских татар. Многое сделано, но многое ещё и предстоит сделать.

Мусульманское религиозное объединение в Республике Беларусь и Белорусское объединение татар-мусульман "Аль-Китаб" обращаются к Вам с настоятельной просьбой оказать помощь в восстановлении деревянной мечети в д. Ловчицы Новогрудского района Гродненской области. Эта мечеть является памятником истории и культуры XVII века, одной из самых древних деревянных мечетей в Европе. В межвоенной Польше Ловчицкая мечеть была внесена в свод памятников, которые охранялись государством. В послевоенный период местные власти не разрешали ремонтировать мечеть, а затем и вовсе её закрыли. В 1990 году Министерство культуры Республики Беларусь выделило деньги и провело начальное проектирование Ловчицкой мечети. Дальше дело не пошло.

Просим Вас оказать возможную помощь в решении этой проблемы. Восстановление мечети на татарском мизаре (кладбище) в Ловчицах, где вечным сном спят наши предки — известные генералы, участники освободительных восстаний, явится ещё одним доказательством правильной национальной политики, проводимой в нашей стране Государственным Комитетом по делам религий и национальностей Республики Беларусь.

Мир Вам, милость Аллаха Всевышнего и Его благословение!

Аллах (хвала Ему и велик Он!) всегда с теми, кто творит добро!

Председатель Мусульманского религиозного объединения в Республике Беларусь (муфтий) **Исмаил Александрович**

Президент Белорусского объединения татар-мусульман "Аль-Китаб" **Абу-Бекир Шабанович**



Председателю
Новогрудского исполкома
районного Совета
**Лис А.В.**

Мусульманское религиозное объединение в Республике Беларусь и мусульманская община г. Новогрудка просят Вас дать разрешение на восстановление памятника истории и культуры XVII века — мечети в д. Ловчицы, находящейся на территории действующего мусульманского кладбища.

Проект реставрации мечети разработан проектно-реставрационными мастерскими г. Минска в 1990 году. Имеется спонсор финансирования строительства мечети.

Восстановление мечети позволит местным татарам-мусульманам, а также гостям из Беларуси и зарубежья выполнять необходимые мусульманские обряды при посещении кладбища в д. Ловчицы.

Председатель Мусульманского религиозного объединения в Республике Беларусь (муфтий) **Исмаил Александрович**

Председатель Совета мусульманской общины г. Новогрудка **Али Шагидевич**



**Выписка**

**НОВОГРУДСКИЙ РАЙОННЫЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ ГРОДНЕНСКОЙ ОБЛАСТИ**

**РЕШЕНИЕ**

**от 08.09. 98 г. № 423 г. Новогрудок**

Вопросы, связанные со строительством.

Новогрудский районный исполнительный комитет РЕШИЛ:

8. Разрешить мусульманскому религиозному объединению и мусульманской общине г. Новогрудка восстановление мечети в д. Ловчицы на территории мусульманского кладбища согласно проекта, разработанного реставрационными мастерскими г. Минска.

Председатель исполкома **А.В. Лис**

Управляющий делами исполкома **Г.С. Турчин**

Выписка верна: зав. общим отделом **Т.И. Сенкевич**

**Польскі грамадскі фонд "Res Publica Multiethnica" ("Рэч Паспалітая ўсіх народаў") акажа садзеянне ў адбудаванні старажытнай мячэці ў в. Лоўчыцы Навагрудскага раёна Гродзенскай вобласці.**

Польскі грамадскі фонд "Рэч Паспалітая ўсіх народаў" гатовы аказаць садзеянне ў аднаўленні старажытнай мячэці, што знаходзіцца ў в. Лоўчыцы Навагрудскага раёна Гродзенскай вобласці. Дамоўленасць аб такім супрацоўніцтве была дасягнута пад час візіту ў Польшчу намесніка муфція Ібрагіма Канапацкага і яго сустрэчы з кіраўніком фонда, вядомым польскім вучоным, доктарам філасофіі Яцакам Гутоўскім. Фонд "Рэч Паспалітая ўсіх народаў", створаны ў 1992 годзе са штаб-кватэрай у Варшаве, аказвае падтрымку па захаванні самабытнай гісторыка-культурнай спадчыны народаў, што жылі ў свой час на тэрыторыі Рэчы Паспалітай. Фонд праводзіць навуковыя даследаванні, экспедыцыі і канферэнцыі, выдае метадычную літаратуру, даведнікі і каталогі, адбудоўвае разбураныя людзьмі і часам храмы розных канфесій.

Пры правядзенні мінулым летам навуковай экспедыцыі па вывучэнні старадаўніх татарскіх мізараў (могілак) на тэрыторыі Беларусі фонд праявіў зацікаўленасць у рэстаўрацыі Лоўчыцкай мячэці.

***

# МЯЎЛЮД У ЛІВІІ

У гэтым годзе святкаванне Мяўлюда — дня нараджэння нашага Прарока Мухаммеда (мір яму і блаславенне Усявышняга!), якое выпала на 6 ліпеня 1998 г. (12 рабі-уль-авваля 1419 года Хіджры) атрымалася для дэлегацыі мусульман Беларусі вельмі ўрачыстым. З нагоды гэтага свята Сусветная Арганізацыя — Ісламскі Прызыў, выканаўчы камітэт якой знаходзіцца ў Трыпалі, сталіцы Лівійскай Джамахірыі, запрасіла прадстаўнікоў мусульман краін свету правесці агульны ўрачысты малебен у вялікай мячэці г. Эль-Бейд, у 200 км ад г. Бенгазі, другога горада па велічыні пасля Трыпалі.

Арганізатары гэтай сустрэчы ўзялі на сябе ўсе выдаткі па прыездзе і ад'ездзе гасцей, іх размяшчэнні ў гатэлях і харчаванні. Усяго на святкаванне прыехала звыш 600 прадстаўнікоў розных краін свету. Ад Беларусі былі запрошаны чатыры чалавекі: І.М. Александровіч, І.І. Багданаў, І.Б. Канапацкі, А.-Б.Я. Шабановіч. (Багданаў не здолеў прыняць удзел, хварэў.) Адным рэйсам з нашай дэлегацыяй на самалёце германскай авіякампаніі "Lufthansa" праз Мюнхен да Мальты ляцелі муфцій Крыма Нуры Мустафаеў і два яго намеснікі, муфцій Эстоніі Алі Харасаў, старшыня аб'яднання мусульман Польшчы Ян Сабалеўскі, намеснік старшыні аб'яднання татар Віленскага краю (Літва) Адомас Асанавічус. З Расеі асобным рэйсам, але таксама праз Мюнхен–Мальту, прыбыла дэлегацыя ў колькасці звыш 30 чалавек.

З Мінска мы вылецелі 1 ліпеня ў 16.$^{30}$, у Мюнхене былі ў 18.$^{45}$, а ў 0.$^{20}$ ужо 2.07 вылецелі ў напрамку Мальты, дзе і прызямліліся а 3 гадзіне раніцы 2.07 ў аэрапорце сталіцы, Ля-Валеты. Пасля адпачынку ў гатэлі і невялікага знаёмства з горадам (тэмпература паветра была +34°С) позным вечарам селі на турэцкі параход і апоўначы адплылі ў напрамку Бенгазі па Міжземным моры (усяго каля 18 гадзін знаходзіліся на караблі). За гэты час адбываліся цікавыя знаёмствы, сустрэчы, дыскусіі, абмен думкамі, меркаваннямі аб становішчы мусульман у той ці іншай краіне, аб шляхах адраджэння Ісламу і мірнага суіснавання з іншымі рэлігійнымі канфесіямі.

3 ліпеня вечарам наш параход прышвартаваўся ў г. Бенгазі. 4 і 5 ліпеня прайшлі цікава і разнастайна — у сустрэчах, перамовах, экскурсіях (у тым ліку і на водасховішча прэснай вады каля Бенгазі — будоўлю веку, з заводам металічных труб і інш.).

6 ліпеня пасля абеду на 12-ці вялікіх аўтобусах выехалі ў г. Эль-Бейд (200 км ад Бенгазі), дзе ў 19.45 пачалася агульная святочная малітва ў мячэці. Спачатку планавалася, што малітвай будзе кіраваць лідэр Лівійскай Джамахірыі Муамар Кадлафі, але, як нам сказалі пазней, з ім здарыўся няшчасны выпадак — ён зламаў нагу і трапіў у бальніцу.

Пасля малітвы былі выступленні прадстаўнікоў дэлегацый. Апоўначы ад'ехалі назад у Бенгазі.

На наступны дзень, 7 ліпеня, у 18.30 зноў паехалі ў г. Эль-Бейд — на сустрэчу з лідарэм Лівіі Муамарам Каддафі, які знаходзіўся ў мясцовай бальніцы на лячэнні.

У 21.30 усе мы прыехалі ў Эль-Бейд, правялі нас да бальніцы, дзе пад адкрытым небам каля высокага ганка былі размешчаны крэслы для гасцей, а на ганку — стол для прэзідыума з мікрафонамі. Раздалі навушнікі і прыборы для праслухоўвання прамоў у перакладзе на англійскую і рускую мовы. У 23.50 вывезлі на ганак Муамара Каддафі. Было некалькі кароткіх выступаў ад гасцей, а затым слова ўзяў М. Каддафі. На працягу гадзіны ён гаварыў пра становішча Ісламу ў свеце, расказаў аб процістаянні паміж дзяржавамі (Лівія ўжо доўгі час знаходзіцца ў палітычнай і эканамічнай блакадзе) і ў асяродку мусульман, што прыносіць вялікую шкоду развіццю Ісламу ў свеце.

Толькі а 5-й гадзіне раніцы 8.07 мы вярнуліся ў свае гатэлі. І ў гэты дзень вечарам нас чакала цікавая сустрэча з Генеральным сакратаром Сусветнай Арганізацыі — Ісламскі Прызыў Мухаммедам А. Шарыфам. Коратка абмяняліся думкамі аб становішчы мусульман у краінах, адкуль прысутнічалі дэлегацыі на сустрэчы, гаспадарам былі ўручаны падарункі ад дэлегацый, у тым ліку і ад мусульман Беларусі.

Гэтыя сустрэчы, перамовы з кіраўнікамі Лівіі і асабліва паміж самімі ўдзельнікамі свята Мяўлюда, якія з'ехаліся з розных канцоў свету, пакінулі глыбокі след у нашай памяці і далі

новы стымул для далейшай працы ў нашых аб'яднаннях (Мусульманскім рэлігійным і "Аль-Кітаб").

9 ліпеня ў 14.$^{30}$ мы адплылі з Бенгазі на караблі ў напрамку да Мальты, куды прыбылі 10 ліпеня ў 14.$^{00}$. Два дні знаёміліся з востравам — дзяржавай Мальтай (300 км$^2$), а 13 ліпеня ў 3.$^{30}$ самалётам вылецелі на Мюнхен–Мінск. Такое падарожжа фізічна некалькі стамляе, але духоўна чалавек значна ўзбагачаецца, атрымлівае зарад бадрасці і настрою на новыя справы. А для нас гэта вельмі патрэбна — адчуваць падтрымку блізкіх па духу людзей у перыяд нашага станаўлення і пачатку духоўнага адраджэння.

**І. Александровіч.**



## ЛІВІЙСКАЯ ДЭЛЕГАЦЫЯ Ў МІНСКУ

У час работы IV міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі "Іслам у Рэспубліцы Беларусь. Традыцыі і перспектывы" ў Мінску па запрашэнні Мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў Рэспубліцы Беларусь і Беларускага згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб" знаходзіліся намеснік Генеральнага сакратара Адміністрацыйнага Савета Сусветнага "Таварыства Ісламскага Склікання" доктар Махмуд Х. Рых і супрацоўнік выканкама Адміністрацыйнага Савета доктар Абдуннабі М. Эль-Гаммудзі. Адбыліся сустрэчы ў Дзяржаўным камітэце па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь. Госці наведалі мячэць у г.п. Смілавічы, аказалі фінансавую дапамогу ў арганізацыі і правядзенні чарговага, V вучэбна-аздараўленчага лагера мусульманскай моладзі Беларусі. Ад імя мусульман Беларусі кіраўнікі беларускіх мусульман выказалі шчырую ўдзячнасць мусульманам Лівіі і яе лідэру Муамару эль-Каддафі за брацкую дапамогу. На адрас лідэра Лівійскай Арабскай Джамахірыі Муамара эль-Каддафі былі накіраваны лісты.





*Сустрэча дэлегацыі з Лівіі*



*Лівійская дэлегацыя ў Смілавіцкай мячэці
пасля набажэнства ў пятніцу*

Всемирное Народное
Исламское Руководство
Брату-лидеру
**Муаммару Эль-Каддафи**

**Дорогой Брат-лидер! Мир Вам!**

Мы поздравляем Вас с успешным окончанием лечения, желаем Вам крепкого здоровья и плодотворной работы на благо Ислама.

В столице Беларуси — г. Минске завершила работу IV международная научно-практическая конференция на тему "Ислам в Республике Беларусь. Традиции и перспективы" (спонсор — Всемирное Народное Исламское Руководство), в работе которой приняли участие учёные, духовные руководители из различных стран.

Мусульманское религиозное объединение в Республике Беларусь, Белорусское объединение татар-мусульман "Аль-Китаб", Союз мусульман Польши, Союз татар-мусульман Литвы от имени всех участников конференции выражают Вам, лидеру Великой Джамахирии, глубокую благодарность за большую практическую помощь татарам-мусульманам в начавшемся процессе возрождения Ислама и татарского народа.

Благодаря Вашей заботе о сохранении чистоты Ислама на самых дальних западных рубежах земли, помощи Организации Всемирное Народное Исламское Руководство, мусульмане Беларуси получили возможность в самый трудный начальный период своего возрождения установить широкие контакты со всем остальным исламским миром, чему в большой мере способствовал проведённый в Вашей стране фестиваль, посвящённый Дню рождения Пророка Мухаммеда (Мир Ему и благословение Аллаха!).

Мы благодарны Вам за организацию этого фестиваля, за предоставленную возможность послушать Ваше выступление на встрече с участниками фестиваля в г. Эль-Бейда. Мы надеемся на укрепление и развитие наших взаимных связей, надеемся, что добрые, тесные отношения установятся и на государственном уровне.

Принимая участие в праздновании Мавлида в Вашей стране, мы с сожалением узнали о Вашей болезни и счастливы, что Вы выздоровели.

Мы просим Всемогущего Аллаха о предоставлении Вам возможности продолжать осуществлять в течение многих лет Ваши добрые дела и намерения как на благо своего народа, так и на благо всего исламского мира! Да поможет Вам Великий Аллах в этом!

**От имени мусульман Беларуси:**

Председатель Мусульманского религиозного объединения в Республике Беларусь — **Исмаил Александрович**

Президент Белорусского объединения татар-мусульман "Аль-Китаб" — **Абу-Бекир Шабанович**

Президент международного фонда духовного развития татар "Чишма" — **Иран Богданов**

Председатель мусульманской общины г. Минска — **Ибрагим Канапацкий**

**От имени мусульман Польши:**

Председатель Союза мусульман Польши — **Ян Соболевский**

**От имени мусульман Литвы:**

Председатель Союза литовских татар — **Адомас Асанавичюс**



Всемирное Народное
Исламское Руководство
Брату-лидеру
**Муаммару Эль-Каддафи**

**Дорогой Брат-лидер! Мир Вам!**

С помощью Аллаха и вашей поддержкой мы открываем в Республике Беларусь V учебно-оздоровительный лагерь мусульманской молодёжи. Этот лагерь пройдёт с 17 по 30 августа 1998 года в посёлке Ратомка недалеко от столицы Беларуси — г. Минска.

В его работе примут участие более 100 детей татар-мусульман Беларуси. От имени мусульман Беларуси выражаем Вам, лидеру Великой Джамахирии, глубокую благодарность за большую помощь в организации лагеря, за помощь нам в начавшемся процессе возрождения Ислама на белорусской земле. Мы благодарим Вас за помощь мусульманам в защите Ислама, за защиту братьев-мусульман против любой раскольнической группы, имеющей название Ислам и цель — увести мусульманскую молодёжь с пути, указанного Великим Аллахом.

Мы поздравляем Вас с выздоровлением, желаем Вам крепкого здоровья и надеемся, что Вы и дальше будете твёрдо держать курс на поддержку мусульман во всём мире.

**Мир Вам, милость Аллаха Всевышнего и Его благословение!**
**Аллах (Хвала Ему и велик Он!) всегда с теми, кто творит добро!**

Председатель Мусульманского
религиозного объединения
в Республике Беларусь **Исмаил Александрович**

Президент Белорусского
объединения татар-мусульман
"Аль-Китаб" **Абу-Бекир Шабанович**

Президент международного
фонда духовного развития
татар "Чишма" **Иран Богданов**

Председатель мусульманской
общины г. Минска **Ибрагим Канапацкий**

***

# IV МІЖНАРОДНАЯ НАВУКОВА-ПРАКТЫЧНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ

9–10 жніўня ў Мінску праходзіла IV міжнародная навукова-практычная канферэнцыя на тэму "Іслам у Рэспубліцы Беларусь. Гісторыя і сучаснасць". У рабоце канферэнцыі прынялі ўдзел намеснік старшыні Дзяржаўнага Камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь І.І. Яновіч, вядучы спецыяліст аддзела ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь А.В. Бабіцкі, намеснік дырэктара рэспубліканскага цэнтра нацыянальных культур В. Монтвідас, часовы паверань пасольства Турэцкай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь спадар Хакан Кыванч, сакратар пасольства Турэцкай Рэспублікі спадар Юксел Шэнцюрк, муфцій Крыма Нуры Мустафаеў, сакратар Духоўнага ўпраўлення мусульман Крыма Эмірусеін Куртумераў, старшыня рэлігійнага Саюза мусульман Польшчы Ян Сабалеўскі, намеснік старшыні абшчыны татар-мусульман г. Вільнюса (Літва) А. Асанавічус, прэзідэнт Усеукраінскага татарскага культурнага цэнтра, старшыня мусульманскай абшчыны г. Кіева К. Хуснутдзінаў. На працягу двух дзён вучоныя і кіраўнікі мусульманскіх суполак абмяркоўвалі праблемы, звязаныя з заканадаўчымі актамі Рэспублікі Беларусь аб рэлігійных арганізацыях і канфесіях, становішчам мусульман у асяроддзі іншых народаў (праблемы ўзаемаўплыву і ўзаемадзеяння), вывучалі вопыт жыцця і дзейнасці мусульманскіх абшчын у Расіі, Польшчы, Беларусі, Літве, на Украіне і ў Крыме, актуальныя пытанні адукацыі мусульман у гэтых краінах.

На канферэнцыі з цікавымі дакладамі выступілі: акадэмік Т.Ф. Акбашаў (Казань) — "Глабальныя праблемы планеты Зямля і татары ў XXI стагоддзі"; прафесар Г.Ф. Шайхіеў (Казань) — "Татарскае мысленне і Іслам"; намеснік загадчыка аддзела Сакратарыята Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь дацэнт Л.Я. Землякоў — "Дзяржава і рэлігійныя арганізацыі: праблемы ўзаемаадносін"; дацэнт І.Б. Канапацкі — "Іслам і праблемы адукацыі беларускіх мусульман"; старшыня мусульманскага рэлігійнага Саюза ў Польшчы Я.Я. Сабалеўскі — "Праблемы мусульманскай адукацыі ў Польшчы"; доктар тэхнічных навук Р. Макавяцкас і навуковы

мусульманских селений и большему количеству делегатов от больших селений и городов.

Конгресс продолжался один день: выборы Президиума, выборы членов наивысшей коллегии мусульман Польши, состоящей из 2 духовных и 2 светских членов, а также их заместителей — 2 духовных и 2 светских сроком на 5 лет, отчёт заместителя муфтия о расходах и мероприятиях муфтиата в годах 1926–1937, закрытие конгресса.

На конгрессе присутствовал воевода виленский как представитель правительства и целый ряд официальных представителей польской общественности г. Вильно.

Конгресс, после официальной части и отхода воеводы, имел довольно оживлённый характер, который внесла группа татар с майором Яновичем-Чаинским во главе, требовавшая удовлетворения требования бедных татар земли, то есть ходатайство о земле перед властями. Только после объяснения неуместности выступления на религиозном конгрессе с этого рода требованием повестка дня была закончена. Причём членами коллегии от духовных выбрали: муллу местности Некрашунцы и меня; от светских выбрали: Якова Романовича и Ольгерда Кричинского; выбраны также заместители членов коллегии: двое духовных и двое светских. Отчёт заместителя муфтия вызвал оживлённую критику и требование более подробного определения расходов. Но на этом и кончилось. На следующий день после конгресса собрался съезд делегатов отделов культурно-просветительного объединения татар Польши. Делегатов было мало. Отделы культурно-просветительного объединения не работали, не собирали членских взносов, и в этом отношении никакая сила не могла помочь. Тяжёлое материальное положение татар деревни и мелких местечек, где татары занимались кустарным промыслом, как выделка кож и огородничество, требовало каких-либо новых положений и усилий людей, стремящихся к изменению направления работы Центрального Совета, представившего съезду сомнительные результаты в виде 3 томов "Рочника Татарского", двух контактов с органами правительства по вопросам надела землёй безземельных татар, а также подчёркивания специального

значения факта образования в конце 1937 г. татарского эскадрона в Новой Вилейке — в 13-м полку уланов. Всё это вызвало ряд острых выступлений, в особенности подчёркивающих положение татар внутри и представление их Центральным Советом извне как массы объединённой. Был выбран новый Центральный Совет, а также принято постановление о легализации Кола Молодёжи польскими властями, чего, однако, Центральный Совет не проделал.

После возвращения с конгресса и съезда муфтиат начал предпринимать в Варшаве старания в Министерстве военных дел о назначении меня для религиозной помощи солдатам татарского эскадрона, что и совершилось 1 мая 1938 г. Бюро некатолических вероисповеданий Министерства военных дел быв. Польши утвердило меня контрактовым духовным для религиозной помощи военнослужащим быв. польской армии в татарском эскадроне, назначая мне по контракту 80 злотых в месяц и обязуя 1 раз в месяц исполнять в Новой Вилейке (где был эскадрон) богослужение, а также принимать присягу от военных, принятых на службу, что я и совершал на протяжении 1938 и 1939 гг. до июля месяца.

Летом 1938 г., когда был в отпуске в Клецке, был я приглашён Колом Молодёжи для богослужения в мечети Осмолова, вечером того же дня в дер. Иваново Клецкого района Коло Молодёжи праздновало "Дожинки". На празднике "Дожинок" присутствовала полиция, речей не было. Был это мой первый контакт с Колом Молодёжи, о котором просил меня Эдиге Шинкевич. В совершении богослужения я отказать не мог. Моё присутствие на празднике "Дожинок", устроенным Колом Молодёжи, свидетельствовало о солидарности с Эдиге Шинкевичем.

Должен указать, что от дня 1 июня 1938 г. моё жалование было повышено до 100 злотых, таким образом получил я более обеспеченное существование.

Принадлежность к коллегии не обуславливалась какой-либо оплатой. Бывая на собраниях коллегии 1 раз в три месяца, получал я в муфтиате расходы на билет из Варшавы в Вильно и обратно, а также платили мне суточные — 20 злотых.

На собраниях коллегии обсуждались разводы, планировался бюджет на ремонт мечетей и содержание духовных, а также вопросы, связанные с мусульманским религиозным культом.

Зима 1938–1939 гг., как указываю в своих показаниях от дня 11 февраля 1941 г., определилась примыканием к эмигрантским группам татар Идель-Урала и Крыма, а также приглашениями меня на приёмы, совершаемые в посольствах Турции, Ирана и Египта, где, выступая как духовный мусульманский г. Варшавы, в беседах с разными лицами, согласно указаниям профессора Ольгерда Гурка, говорил, когда о том был разговор, о положении мусульман в Польше.

30 августа 1939 г. вернулся я из Клецка в Варшаву. 1 сентября вспыхнула польско-германская война. 2 или 3 сентября приехал в Варшаву Эдиге Шинкевич, который остановился у меня. Не пробыв суток и пережив вместе с нами и моим шурином Амуратом Якубовским фальшивую газовую тревогу, удалился, и я его с этого времени больше не видел.

По каким делам Эдиге Шинкевич прибыл в Варшаву, — не говорил. 5 сентября я выехал из Варшавы в Клецк, куда прибыл 9 сентября. Из Клецка никуда не выезжал.

**А. Воронович.**

***

# БЕЛАРУСКА-РУСКІ СЛОЎНІК ТАТАРСКІХ ІМЁНАЎ

(Працяг, пачатак у № 1, 2 1998 г.)

## Мужчынскія імёны

| На беларускай мове | На рускай мове |
|---|---|
| **П** | |
| **Паша**, Пашаевіч, Пашаеўна | **Паша** |
| **Паянда**, Паяндаевіч, Паяндаеўна | **Паянда** |
| **Пейман**, Пейманавіч, Пейманаўна | **Пейман** |
| **Пеліван**, Пеліванавіч, Пеліванаўна | **Пеливан** |
| **Пётр**, Пятровіч, Пятроўна | **Пётр** |
| **Пільтан**, Пільтанавіч, Пільтанаўна | **Пильтан** |
| **Піруз**, Пірузавіч, Пірузаўна | **Пируз** |
| **Пулад**, Пуладавіч, Пуладаўна | **Пулад** |
| **Р** | |
| **Раберт**, Рабертавіч, Рабертаўна | **Роберт** |
| **Равіль**, Равілевіч, Равілеўна | **Равиль** |
| **Раджаб**, Раджабавіч, Раджабаўна | **Раджаб** |
| **Раджэб**, Раджэбавіч, Раджэбаўна | **Раджэб** |
| **Радзік**, Радзікавіч, Радзікаўна | **Радик** |
| **Радыс**, Радысавіч, Радысаўна | **Радис** |
| **Раік**, Раікавіч, Раікаўна | **Раик** |
| **Раіль**, Раілевіч, Раілеўна | **Раиль** |
| **Раім**, Раімавіч, Раімаўна | **Раим** |
| **Раіс**, Раісавіч, Раісаўна | **Раис** |
| **Раіф**, Раіфавіч, Раіфаўна | **Раиф** |
| **Райхан**, Райханавіч, Райханаўна | **Райхан** |
| **Рамадан**, Рамаданавіч, Рамаданаўна | **Рамадан** |
| **Рамазан**, Рамазанавіч, Рамазанаўна | **Рамазан** |
| **Рамай**, Рамаевіч, Рамаеўна | **Рамай** |

| | |
|---|---|
| **Раман**, Раманавіч, Раманаўна | **Роман** |
| **Рамзі**, Рамзіевіч, Рамзіеўна | **Рамзи** |
| **Рамзіль**, Рамзілевіч, Рамзілеўна | **Рамзиль** |
| **Раміль**, Рамілевіч, Рамілеўна | **Рамиль** |
| **Раміс**, Рамісавіч, Рамісаўна | **Рамис** |
| **Рамуальд**, Рамуальдавіч, Рамуальдаўна | **Ромуальд** |
| **Раніс**, Ранісавіч, Ранісаўна | **Ранис** |
| **Расіль**, Расілевіч, Расілеўна | **Расиль** |
| **Расіх**, Расіхавіч, Расіхаўна | **Расих** |
| **Расул**, Расулавіч, Расулаўна | **Расул** |
| **Рауф**, Рауфавіч, Рауфаўна | **Рауф** |
| **Рафат**, Рафатавіч, Рафатаўна | **Рафат** |
| **Рафаэль**, Рафаэлевіч, Рафаэлеўна | **Рафаэль** |
| **Рафік**, Рафікавіч, Рафікаўна | **Рафик** |
| **Рахім**, Рахімавіч, Рахімаўна | **Рахим** |
| **Рахмай**, Рахмаевіч, Рахмаеўна | **Рахмай** |
| **Рахман**, Рахманавіч, Рахманаўна | **Рахман** |
| **Рахматула**, Рахматулаевіч, Рахматулаеўна | **Рахматулла** |
| **Рашыд**, Рашыдавіч, Рашыдаўна | **Рашид** |
| **Рузіль**, Рузілевіч, Рузілеўна | **Рузиль** |
| **Русан**, Русанавіч, Русанаўна | **Русан** |
| **Руслан**, Русланавіч, Русланаўна | **Руслан** |
| **Рустам**, Рустамавіч, Рустамаўна | **Рустам** |
| **Руфіс**, Руфісавіч, Руфісаўна | **Руфис** |
| **Рыжа**, Рыжаевіч, Рыжаеўна | **Рижа** |
| **Рыза**, Рызаевіч, Рызаеўна | **Риза** |
| **Рынат**, Рынатавіч, Рынатаўна | **Ринат** |
| **Рышат**, Рышатавіч, Рышатаўна | **Ришат** |
| **Рыяз**, Рыязавіч, Рыязаўна | **Рияз** |
| **Рыят**, Рыятавіч, Рыятаўна | **Рият** |
| **Рэджып**, Рэджыпавіч, Рэджыпаўна | **Реджип** |

## С

| | |
|---|---|
| **Сабатал**, Сабаталавіч, Сабаталаўна | **Сабатал** |
| **Сабах**, Сабахавіч, Сабахаўна | **Сабах** |
| **Сабір**, Сабіравіч, Сабіраўна | **Сабир** |
| **Сабірджан**, Сабірджанавіч, Сабірджанаўна | **Сабирджан** |

| | |
|---|---|
| **Сабіх**, Сабіхавіч, Сабіхаўна | **Сабих** |
| **Сагдзі**, Сагдзіевіч, Сагдзіеўна | **Сагди** |
| **Сагір**, Сагіравіч, Сагіраўна | **Сагир** |
| **Садык**, Садыкавіч, Садыкаўна | **Садык** |
| **Садыр**, Садыравіч, Садыраўна | **Садыр** |
| **Саід**, Саідавіч, Саідаўна | **Саид** |
| **Саіт**, Саітавіч, Саітаўна | **Саит** |
| **Сайфула**, Сайфулаевіч, Сайфулаеўна | **Сайфулла** |
| **Салават**, Салаватавіч, Салаватаўна | **Салават** |
| **Салех**, Салехавіч, Салехаўна | **Салех** |
| **Салім**, Салімавіч, Салімаўна | **Салим** |
| **Салімула**, Салімулаевіч, Салімулаеўна | **Салимулла** |
| **Саліх**, Саліхавіч, Саліхаўна | **Салих** |
| **Салтан**, Салтанавіч, Салтанаўна | **Салтан** |
| **Самі**, Саміевіч, Саміеўна | **Сами** |
| **Самігула**, Самігулаевіч, Самігулаеўна | **Самигулла** |
| **Самім**, Самімавіч, Самімаўна | **Самим** |
| **Самуэль**, Самуэлевіч, Самуэлеўна | **Самуэль** |
| **Сапар**, Сапаравіч, Сапараўна | **Сапар** |
| **Сатар**, Сатаравіч, Сатараўна | **Саттар** |
| **Сауд**, Саудавіч, Саудаўна | **Сауд** |
| **Сафа**, Сафаевіч, Сафаеўна | **Сафа** |
| **Сафар**, Сафаравіч, Сафараўна | **Сафар** |
| **Сафарвалі**, Сафарваліевіч, Сафарваліеўна | **Сафарвали** |
| **Сафаргалі**, Сафаргаліевіч, Сафаргаліеўна | **Сафаргали** |
| **Саф'ян**, Саф'янавіч, Саф'янаўна | **Сафьян** |
| **Сахі**, Сахіевіч, Сахіеўна | **Сахи** |
| **Сахіб**, Сахібавіч, Сахібаўна | **Сахиб** |
| **Сахібула**, Сахібулаевіч, Сахібулаеўна | **Сахибулла** |
| **Сахіп**, Сахіпавіч, Сахіпаўна | **Сахип** |
| **Селім**, Селімавіч, Селімаўна | **Селим** |
| **Селімбек**, Селімбекавіч, Селімбекаўна | **Селимбек** |
| **Селімша**, Селімшаевіч, Селімшаеўна | **Селимша** |
| **Сібгат**, Сібгатавіч, Сібгатаўна | **Сибгат** |
| **Сіраджы**, Сіраджыевіч, Сіраджыеўна | **Сираджи** |
| **Сірай**, Сіраевіч, Сіраеўна | **Сирай** |
| **Смаіл**, Смаілавіч, Смаілаўна | **Смаил** |

| | |
|---|---|
| **Стэфан,** Стэфанавіч, Стэфанаўна | **Стефан** |
| **Субух,** Субухавіч, Субухаўна | **Субух** |
| **Сулейман,** Сулейманавіч, Сулейманаўна | **Сулейман** |
| **Суліман,** Суліманавіч, Суліманаўна | **Сулиман** |
| **Султан,** Султанавіч, Султанаўна | **Султан** |
| **Суфіян,** Суфіянавіч, Суфіянаўна | **Суфиян** |
| **Суяргул,** Суяргулавіч, Суяргулаўна | **Суяргул** |
| **Сюлейман,** Сюлейманавіч. Сюлейманаўна | **Сюлейман** |
| **Сюмбель,** Сюмбелевіч, Сюмбелеўна | **Сюмбель** |

## Т

| | |
|---|---|
| **Табіб,** Табібавіч, Табібаўна | **Табиб** |
| **Табіп,** Табіпавіч, Табіпаўна | **Табип** |
| **Табіш,** Табішавіч, Табішаўна | **Табиш** |
| **Таб'ят,** Таб'ятавіч, Таб'ятаўна | **Табьят** |
| **Тварыс,** Таварысавіч, Таварысаўна | **Таварыс** |
| **Тавіль,** Тавілевіч, Тавілеўна | **Тавиль** |
| **Тагір,** Тагіравіч, Тагіраўна | **Тагир** |
| **Такай,** Такаевіч, Такаеўна | **Такай** |
| **Такі,** Такіевіч, Такіеўна | **Таки** |
| **Такміль,** Такмілевіч, Такмілеўна | **Такмиль** |
| **Тактай,** Тактаевіч, Тактаеўна | **Тактай** |
| **Тактарн,** Тактарнавіч, Тактарнаўна | **Тактарн** |
| **Таліб,** Талібавіч, Талібаўна | **Талиб** |
| **Талік,** Талікавіч, Талікаўна | **Талик** |
| **Таліп,** Таліпавіч, Таліпаўна | **Талип** |
| **Таліф,** Таліфавіч, Таліфаўна | **Талиф** |
| **Талха,** Талхаевіч, Талхаеўна | **Талха** |
| **Тамаш,** Тамашавіч, Тамашаўна | **Томаш** |
| **Таміз,** Тамізавіч, Тамізаўна | **Тамиз** |
| **Таміндар,** Таміндаравіч, Таміндараўна | **Таминдар** |
| **Таміс,** Тамісавіч, Тамісаўна | **Тамис** |
| **Там'ян,** Там'янавіч, Там'янаўна | **Тамьян** |
| **Танатар,** Танатаравіч, Танатараўна | **Танатар** |
| **Танчура,** Танчураевіч. Танчураеўна | **Танчура** |
| **Таўкіль,** Таўкілевіч, Таўкілеўна | **Таукиль** |
| **Тахір,** Тахіравіч, Тахіраўна | **Тахир** |

| | |
|---|---|
| **Тахно,** Тахноевіч, Тахноеўна | **Тахно** |
| **Тахтамыш,** Тахтамышавіч, Тахтамышаўна | **Тахтамыш** |
| **Тугай,** Тугаевіч, Тугаеўна | **Тугай** |
| **Туган,** Туганавіч, Туганаўна | **Туган** |
| **Тукай,** Тукаевіч, Тукаеўна | **Тукай** |
| **Тулаш,** Тулашавіч, Тулашаўна | **Тулаш** |
| **Туляк,** Тулякавіч, Тулякаўна | **Туляк** |
| **Тургай,** Тургаевіч, Тургаеўна | **Тургай** |
| **Туфан,** Туфанавіч, Туфанаўна | **Туфан** |
| **Тухбат,** Тухбатавіч, Тухбатаўна | **Тухбат** |
| **Тухбатула,** Тухбатулаевіч, Тухбатулаеўна | **Тухбатулла** |
| **Тухфатула,** Тухфатулаевіч, Тухфатулаеўна | **Тухфатулла** |
| **Тыан,** Тыанавіч, Тыанаўна | **Тиан** |
| **Тымірча,** Тымірчаевіч, Тымірчаеўна | **Тимирча** |
| **Тэмеш,** Тэмешавіч, Тэмешаўна | **Темеш** |

## У

| | |
|---|---|
| **Узбек,** Узбекавіч, Узбекаўна | **Узбек** |
| **Узеір,** Узеіравіч, Узеіраўна | **Узеир** |
| **Улан,** Уланавіч, Уланаўна | **Улан** |
| **Улуг,** Улугавіч, Улугаўна | **Улуг** |
| **Улугбек,** Улугбекавіч, Улугбекаўна | **Улугбек** |
| **Ульвейс,** Ульвейсавіч, Ульвейсаўна | **Ульвейс** |
| **Ульфат,** Ульфатавіч, Ульфатаўна | **Ульфат** |
| **Умар,** Умаравіч, Умараўна | **Умар** |
| **Умет,** Уметавіч, Уметаўна | **Умет** |
| **Уразай,** Уразаевіч, Уразаеўна | **Уразай** |
| **Уразбек,** Уразбекавіч, Уразбекаўна | **Уразбек** |
| **Урал,** Уралавіч, Уралаўна | **Урал** |
| **Урмаш,** Урмашавіч, Урмашаўна | **Урмаш** |
| **Урус,** Урусавіч, Урусаўна | **Урус** |
| **Ур'яш,** Ур'яшавіч, Ур'яшаўна | **Урьяш** |
| **Усар,** Усаравіч, Усараўна | **Усар** |
| **Усеін,** Усеінавіч, Усеінаўна | **Усеин** |
| **Усман,** Усманавіч, Усманаўна | **Усман** |
| **Усмангалі,** Усмангаліевіч, Усмангаліеўна | **Усмангали** |
| **Ушэн,** Ушэнавіч, Ушэнаўна | **Ушен** |

## Ф

| | |
|---|---|
| **Фагіль,** Фагілевіч, Фагілеўна | **Фагиль** |
| **Фазлі,** Фазліевіч, Фазліеўна | **Фазли** |
| **Фазула,** Фазулаевіч, Фазулаеўна | **Фазулла** |
| **Фазыл,** Фазылавіч, Фазылаўна | **Фазыл** |
| **Фазыл'ян,** Фазыл'янавіч, Фазыл'янаўна | **Фазильян** |
| **Фаіз,** Фаізавіч, Фаізаўна | **Фаиз** |
| **Фаіль,** Фаілевіч, Фаілеўна | **Фаиль** |
| **Файзі,** Файзіевіч, Файзіеўна | **Файзи** |
| **Файзула,** Файзулаевіч, Файзулаеўна | **Файзулла** |
| **Фандас,** Фандасавіч, Фандасаўна | **Фандас** |
| **Фаніль,** Фанілевіч, Фанілеўна | **Фаниль** |
| **Фарваз,** Фарвазавіч, Фарвазаўна | **Фарваз** |
| **Фарвас,** Фарвасавіч, Фарвасаўна | **Фарвас** |
| **Фархад,** Фархадавіч, Фархадаўна | **Фархад** |
| **Фархат,** Фархатавіч, Фархатаўна | **Фархат** |
| **Фарыд,** Фарыдавіч, Фарыдаўна | **Фарид** |
| **Фарыз,** Фарызавіч, Фарызаўна | **Фариз** |
| **Фасіль,** Фасілевіч, Фасілеўна | **Фасиль** |
| **Фатах,** Фатахавіч, Фатахаўна | **Фаттах** |
| **Фаткула,** Фаткулаевіч, Фаткулаеўна | **Фаткулла** |
| **Фатхі,** Фатхіевіч, Фатхіеўна | **Фатхи** |
| **Фатхула,** Фатхулаевіч, Фатхулаеўна | **Фатхулла** |
| **Фаўзі,** Фаўзіевіч, Фаўзіеўна | **Фаузи** |
| **Фахры,** Фахрыевіч, Фахрыеўна | **Фахри** |
| **Фаціх,** Фаціхавіч, Фаціхаўна | **Фатих** |
| **Ферат,** Ферातавіч, Фератаўна | **Ферат** |
| **Ферус,** Ферусавіч, Ферусаўна | **Ферус** |
| **Фета,** Фетаевіч, Фетаеўна | **Фетта** |
| **Фетакім,** Фетакімавіч, Фетакімаўна | **Фетаким** |
| **Фідаіль,** Фідаілевіч, Фідаілеўна | **Фидаиль** |
| **Фікрэт,** Фікрэтавіч, Фікрэтаўна | **Фикрет** |
| **Фіруз,** Фірузавіч, Фірузаўна | **Фируз** |
| **Фіршат,** Фіршатавіч, Фіршатаўна | **Фиршат** |
| **Фларыс,** Фларысавіч, Фларысаўна | **Флорис** |
| **Фларыт,** Фларытавіч, Фларытаўна | **Флорит** |

| | |
|---|---|
| **Францішак**, Францішкавіч, Францішкаўна | **Франтишек** |
| **Фуад**, Фуадавіч, Фуадаўна | **Фуад** |
| **Фуат**, Фуатавіч, Фуатаўна | **Фуат** |
| **Фурс**, Фурсавіч, Фурсаўна | **Фурс** |

## Х

| | |
|---|---|
| **Хабіб**, Хабібавіч, Хабібаўна | **Хабиб** |
| **Хабібрахман**, Хабібрахманавіч, Хабібрахманаўна | **Хабибрахман** |
| **Хабіп**, Хабіпавіч, Хабіпаўна | **Хабип** |
| **Хава**, Хаваевіч, Хаваеўна | **Хава** |
| **Хаджа**, Хаджаевіч, Хаджаеўна | **Хаджа** |
| **Хаджы**, Хаджыевіч, Хаджыеўна | **Хаджи** |
| **Хаджыахмет**, Хаджыахметавіч, Хаджыахметаўна | **Хаджиахмет** |
| **Хаджыгалі**, Хаджыгаліевіч, Хаджыгаліеўна | **Хаджигали** |
| **Хаджымурат**, Хаджымуратавіч, Хаджымуратаўна | **Хаджимурат** |
| **Хадзіча**, Хадзічаевіч, Хадзічаеўна | **Хадича** |
| **Хазбей**, Хазбеевіч, Хазбееўна | **Хазбей** |
| **Хазбула**, Хазбулаевіч, Хазбулаеўна | **Хазбулла** |
| **Хазбулат**, Хазбулатавіч, Хазбулатаўна | **Хазбулат** |
| **Хаір**, Хаіравіч, Хаіраўна | **Хаир** |
| **Хай**, Хаевіч, Хаеўна | **Хай** |
| **Хайдар**, Хайдаравіч, Хайдараўна | **Хайдар** |
| **Хайдэт**, Хайдэтавіч, Хайдэтаўна | **Хайдет** |
| **Хайрула**, Хайрулаевіч, Хайрулаеўна | **Хайрулла** |
| **Хайры**, Хайрыевіч, Хайрыеўна | **Хайри** |
| **Хакім**, Хакімавіч, Хакімаўна | **Хаким** |
| **Халафат**, Халафатавіч, Халафатаўна | **Халафат** |
| **Халембек**, Халембекавіч, Халембекаўна | **Халембек** |
| **Халіб**, Халібавіч, Халібаўна | **Халиб** |
| **Халід**, Халідавіч, Халідаўна | **Халид** |
| **Халік**, Халікавіч, Халікаўна | **Халик** |
| **Халіл**, Халілавіч, Халілаўна | **Халим** |
| **Халіль**, Халілевіч, Халілеўна | **Халиль** |
| **Халім**, Халімавіч, Халімаўна | **Халим** |

| | |
|---|---|
| **Халімула,** Халімулаевіч, Халімулаеўна | **Халимулла** |
| **Халіп,** Халіпавіч, Халіпаўна | **Халип** |
| **Халіт,** Халітавіч, Халітаўна | **Халит** |
| **Халіўла,** Халіўлаевіч, Халіўлаеўна | **Халиулла** |
| **Халіф,** Халіфавіч, Халіфаўна | **Халиф** |
| **Халіфула,** Халіфулаевіч, Халіфулаеўна | **Халифулла** |
| **Хамат,** Хаматавіч, Хаматаўна | **Хаммат** |
| **Хамза,** Хамзаевіч, Хамзаеўна | **Хамза** |
| **Хан,** Ханавіч, Ханаўна | **Хан** |
| **Ханан,** Хананавіч, Хананаўна | **Ханнан** |
| **Ханафі,** Ханафіевіч, Ханафіеўна | **Ханафи** |
| **Ханіса,** Ханісавіч, Ханісаўна | **Ханисса** |
| **Ханіф,** Ханіфавіч, Ханіфаўна | **Ханиф** |
| **Харумша,** Харумшаевіч, Харумшаеўна | **Харумша** |
| **Харун,** Харунавіч, Харунаўна | **Харун** |
| **Харысім,** Харысімавіч, Харысімаўна | **Харисим** |
| **Хасан,** Хасанавіч, Хасанаўна | **Хасан** |
| **Хасанша,** Хасаншаевіч, Хасаншаеўна | **Хасанша** |
| **Хасень,** Хасеневіч, Хасенеўна | **Хасень** |
| **Хатмі,** Хатміевіч, Хатміеўна | **Хатми** |
| **Хікмет,** Хікметавіч, Хікметаўна | **Хикмет** |
| **Хісамі,** Хісаміевіч, Хісаміеўна | **Хисами** |
| **Хубі,** Хубіевіч, Хубіеўна | **Хубби** |
| **Худжа,** Худжаевіч, Худжаеўна | **Худжа** |
| **Худжабай,** Худжабаевіч, Худжабаеўна | **Худжабай** |
| **Хурам,** Хурамавіч, Хурамаўна | **Хурам** |
| **Хурматула,** Хурматулаевіч, Хурматулаеўна | **Хурматулла** |
| **Хусаін,** Хусаінавіч, Хусаінаўна | **Хусаин** |
| **Хусейн,** Хусейнавіч, Хусейнаўна | **Хусейн** |

## Ц

| | |
|---|---|
| **Цемір,** Цеміравіч, Цеміраўна | **Темир** |
| **Цемур,** Цемуравіч, Цемураўна | **Темур** |
| **Цімербай,** Цімербаевіч, Цімербаеўна | **Тимербай** |
| **Цімербулат,** Цімербулатавіч, Цімербулатаўна | **Тимербулат** |
| **Цімергазі,** Цімергазіевіч, Цімергазіеўна | **Тимергази** |
| **Цімергалі,** Цімергаліевіч, Цімергаліеўна | **Тимергали** |

| | |
|---|---|
| **Цімергул,** Цімергулавіч, Цімергулаўна | **Тимергул** |
| **Цімерджан,** Цімерджанавіч, Цімерджанаўна | **Тимерджан** |
| **Цімерхан,** Цімерханавіч, Цімерханаўна | **Тимерхан** |
| **Цімерша,** Цімершаевіч, Цімершаеўна | **Тимерша** |
| **Цімур,** Цімуравіч, Цімураўна | **Тимур** |
| **Цінчура,** Цінчураевіч, Цінчураеўна | **Тинчура** |

## Ч

| | |
|---|---|
| **Чагайдай,** Чагайдаевіч, Чагайдаеўна | **Чагайдай** |
| **Чавуш,** Чавушавіч, Чавушаўна | **Чавуш** |
| **Чалаш,** Чалашавіч, Чалашаўна | **Чалаш** |
| **Чанбарыс,** Чанбарысавіч, Чанбарысаўна | **Чанбарис** |
| **Чандар,** Чандаравіч, Чандараўна | **Чандар** |
| **Чукай,** Чукаевіч, Чукаеўна | **Чукай** |
| **Чулман,** Чулманавіч, Чулманаўна | **Чулман** |
| **Чумбай,** Чумбаевіч, Чумбаеўна | **Чумбай** |
| **Чурагул,** Чурагулавіч, Чурагулаўна | **Чурагул** |
| **Чуракай,** Чуракаевіч, Чуракаеўна | **Чуракай** |
| **Чынгіз,** Чынгізавіч, Чынгізаўна | **Чингиз** |

## Ш

| | |
|---|---|
| **Шабан,** Шабанавіч, Шабанаўна | **Шабан** |
| **Шавалі,** Шаваліевіч, Шаваліеўна | **Шавали** |
| **Шавер,** Шаверавіч, Шавераўна | **Шавер** |
| **Шагалі,** Шагаліевіч, Шагаліеўна | **Шагали** |
| **Шагі,** Шагіевіч, Шагіеўна | **Шаги** |
| **Шагіяр,** Шагіяравіч, Шагіяраўна | **Шагияр** |
| **Шагун,** Шагунавіч, Шагунаўна | **Шагун** |
| **Шаіп,** Шаіпавіч, Шаіпаўна | **Шаип** |
| **Шайдула,** Шайдулаевіч, Шайдулаеўна | **Шайдулла** |
| **Шаймурат,** Шаймуратавіч, Шаймуратаўна | **Шаймурат** |
| **Шайхасан,** Шайхасанавіч, Шайхасанаўна | **Шайхасан** |
| **Шайхі,** Шайхіевіч, Шайхіеўна | **Шайхи** |
| **Шакір,** Шакіравіч, Шакіраўна | **Шакир** |
| **Шакір'ян,** Шакір'янавіч, Шакір'янаўна | **Шакирьян** |
| **Шакур,** Шакуравіч, Шакураўна | **Шакур** |

| | |
|---|---|
| **Шамас,** Шамасавіч, Шамасаўна | **Шамас** |
| **Шаміль,** Шамілевіч, Шамілеўна | **Шамиль** |
| **Шамрат,** Шамратавіч, Шамратаўна | **Шамрат** |
| **Шамсі,** Шамсіевіч, Шамсіеўна | **Шамси** |
| **Шараб,** Шарабавіч, Шарабаўна | **Шараб** |
| **Шарап,** Шарапавіч, Шарапаўна | **Шарап** |
| **Шараф,** Шарафавіч, Шарафаўна | **Шараф** |
| **Шарафі,** Шарафіевіч, Шарафіеўна | **Шарафи** |
| **Шарыб,** Шарыбавіч, Шарыбаўна | **Шариб** |
| **Шарып,** Шарыпавіч, Шарыпаўна | **Шарип** |
| **Шарыф,** Шарыфавіч, Шарыфаўна | **Шариф** |
| **Шатыш,** Шатышавіч, Шатышаўна | **Шатыш** |
| **Шаўкат,** Шаўкатавіч, Шаўкатаўна | **Шавкат** |
| **Шафік,** Шафікавіч, Шафікаўна | **Шафик** |
| **Шахадат,** Шахадатавіч, Шахадатаўна | **Шахадат** |
| **Шахбай,** Шахбаевіч, Шахбаеўна | **Шахбай** |
| **Шах-Даўлець,** Шах-Даўлецевіч, Шах-Даўлецеўна | **Шах-Давлет** |
| **Шахі,** Шахіевіч, Шахіеўна | **Шахи** |
| **Шахіахмет,** Шахіахметавіч, Шахіахметаўна | **Шахиахмет** |
| **Шахід,** Шахідавіч, Шахідаўна | **Шахид** |
| **Шахідар,** Шахідаравіч, Шахідараўна | **Шахидар** |
| **Шахідула,** Шахідулаевіч, Шахідулаеўна | **Шахидулла** |
| **Шахізар,** Шахізаравіч, Шахізараўна | **Шахизар** |
| **Шахімурат,** Шахімуратавіч, Шахімуратаўна | **Шахимурат** |
| **Шахімурза,** Шахімурзаевіч, Шахімурзаеўна | **Шахимурза** |
| **Шахімухамет,** Шахімухаметавіч, Шахімухаметаўна | **Шахимухаммет** |
| **Шахіт,** Шахітавіч, Шахітаўна | **Шахит** |
| **Шахіўла,** Шахіўлаевіч, Шахіўлаеўна | **Шахиулла** |
| **Шахіян,** Шахіянавіч, Шахіянаўна | **Шахиян** |
| **Шахіяр,** Шахіяравіч, Шахіяраўна | **Шахияр** |
| **Шахман,** Шахманавіч, Шахманаўна | **Шахман** |
| **Шаяхмет,** Шаяхметавіч, Шаяхметаўна | **Шаяхмет** |
| **Шыгаб,** Шыгабавіч, Шыгабаўна | **Шигаб** |
| **Шыгап,** Шыгапавіч, Шыгапаўна | **Шигап** |

| | |
|---|---|
| **Шыгаф,** Шыгафавіч, Шыгафаўна | **Шигаф** |
| **Шымон,** Шымонавіч, Шымонаўна | **Шимон** |

### Э

| | |
|---|---|
| **Эгат,** Эгатавіч, Эгатаўна | **Эгат** |
| **Эдэм,** Эдэмавіч, Эдэмаўна | **Эдем** |
| **Элізбар,** Элізбаравіч, Элізбараўна | **Элизбар** |
| **Эльві,** Эльвіевіч, Эльвіеўна | **Эльви** |
| **Эльвір,** Эльвіравіч, Эльвіраўна | **Эльвир** |
| **Эльвіс,** Эльвісавіч, Эльвісаўна | **Эльвис** |
| **Эльдар,** Эльдаравіч, Эльдараўна | **Эльдар** |
| **Эльмар,** Эльмаравіч, Эльмараўна | **Эльмар** |
| **Эльмір,** Эльміравіч, Эльміраўна | **Эльмир** |
| **Эльнар,** Эльнаравіч, Эльнараўна | **Эльнар** |
| **Эльяс,** Эльясавіч, Эльясаўна | **Эльяс** |
| **Эльяш,** Эльяшавіч, Эльяшаўна | **Эльяш** |
| **Эмадзін,** Эмадзінавіч, Эмадзінаўна | **Эмадин** |
| **Эмір,** Эміравіч, Эміраўна | **Эмир** |
| **Эмірасан,** Эмірасанавіч, Эмірасанаўна | **Эмирасан** |
| **Энвер,** Энверавіч, Энвераўна | **Энвер** |
| **Энгель,** Энгелевіч, Энгелеўна | **Энгель** |
| **Эрустан,** Эрустанавіч, Эрустанаўна | **Эрустан** |
| **Эрык,** Эрыкавіч, Эрыкаўна | **Эрик** |
| **Эсат,** Эсатавіч, Эсатаўна | **Эсат** |
| **Эсфет,** Эсфетавіч, Эсфетаўна | **Эсфет** |
| **Эхат,** Эхатавіч, Эхатаўна | **Эхат** |

### Ю

| | |
|---|---|
| **Юзаф,** Юзафавіч, Юзафаўна | **Юзеф** |
| **Юлай,** Юлаевіч, Юлаеўна | **Юлай** |
| **Юлдаш,** Юлдашавіч, Юлдашаўна | **Юлдаш** |
| **Юлдашбай,** Юлдашбаевіч, Юлдашбаеўна | **Юлдашбай** |
| **Юлмамет,** Юлмаметавіч, Юлмаметаўна | **Юлмамет** |
| **Юлмухамет,** Юлмухаметавіч, Юлмухаметаўна | **Юлмухаммет** |
| **Юмат,** Юматавіч, Юматаўна | **Юмат** |
| **Юмаш,** Юмашавіч, Юмашаўна | **Юмаш** |

| | |
|---|---|
| **Юнус,** Юнусавіч, Юнусаўна | **Юнус** |
| **Юсуп,** Юсупавіч, Юсупаўна | **Юсуп** |
| **Юсуф,** Юсуфавіч, Юсуфаўна | **Юсуф** |
| **Юхна,** Юхнаевіч, Юхнаеўна | **Юхна** |

## Я

| | |
|---|---|
| **Ягафар,** Ягафаравіч, Ягафараўна | **Ягафар** |
| **Ядгар,** Ядгаравіч, Ядгараўна | **Ядгар** |
| **Ядкар,** Ядкаравіч, Ядкараўна | **Ядкар** |
| **Якуб,** Якубавіч, Якубаўна | **Якуб** |
| **Якуп,** Якупавіч, Якупаўна | **Якуп** |
| **Ялчыгул,** Ялчыгулавіч, Ялчыгулаўна | **Ялчыгул** |
| **Ямал,** Ямалавіч, Ямалаўна | **Ямал** |
| **Ямалі,** Ямаліевіч, Ямаліеўна | **Ямали** |
| **Ямаш,** Ямашавіч, Ямашаўна | **Ямаш** |
| **Ямгетдзін,** Ямгетдзінавіч, Ямгетдзінаўна | **Ямгетдин** |
| **Ян,** Янавіч, Янаўна | **Ян** |
| **Янібек,** Янібекавіч, Янібекаўна | **Янибек** |
| **Януш,** Янушавіч, Янушаўна | **Януш** |
| **Янцімер,** Янціміравіч, Янцімераўна | **Янтимер** |
| **Япар,** Япаравіч, Япараўна | **Яппар** |
| **Ярмі,** Ярміевіч, Ярміеўна | **Ярми** |
| **Ярула,** Ярулаевіч, Ярулаеўна | **Ярулла** |
| **Ясаві,** Ясавіевіч, Ясавіеўна | **Ясави** |
| **Ясавір,** Ясавіравіч, Ясавіраўна | **Ясавир** |
| **Яуш,** Яушавіч, Яушаўна | **Яуш** |
| **Яхута,** Яхутавіч, Яхутаўна | **Яхута** |
| **Ях'я,** Ях'яевіч, Ях'яеўна | **Яхья** |

***



Дарагі Ібрагім Барысавіч, дабрыдзень! Міру, дабра, шчасця, квітнеючых здароўя і жыцця Вам, Вашым родным, блізкім, сябрам і знаёмым! Напісаць хутчэй дапамагла мне хвароба нырак і печані, калі пішаш, дык яна забываецца. Адолеў Вашу просьбу і пасля абуджэння ад сну адашлю на Ваш адрас. Пісалася мне лёгка, бо ў Крыме я быў амаль што паўсюль, дзе быў і Адам Міцкевіч, праўда, тады я зусім не ведаў, што буду нешта пісаць пра вяшчуна, бо гэта ў тую пару была простая цікаўнасць. Але кніга, паштоўка і фотаздымкі з Крыма, у тым ліку і з Бахчысарая, сапраўдныя. Апошні раз на старажытнай татарскай зямлі быў у 1991 годзе, а ў 1990 годзе адпачываў у Саках у ваенным санаторыі. Недзе 10 разоў пабываў на паўвостраве, нават маю з Крыма і "залаты" медаль. А ўпершыню мне пашанцавала ў дзіцячым доме, не ведаю як, але віншавальную паштоўку з 1957 года захаваў дасюль. Гэта нейкі цуд, як і некалькі артэкаўскіх **песень**. А вось гербарый з Крыма прапаў на Далёкім Усходзе разам з "ящиком детективной литературы".

Здаецца, усе Вашы просьбы выканаў, таму буду спаць спакойна.

Шчасця Вам.

З шанаваннем, **М. Маліноўскі.**



# АДЧУВАЮ ПОСТАЦЬ І МУЗЫКУ СЛОЎ АДАМА МІЦКЕВІЧА

**(Вакол, і каля, і аб "Крымскіх санетах" у 200-гадовы юбілей паэта)**

***У Адэсе сябры-філаматы прабылі каля дзесяці месяцаў. Адтуль Адам Міцкевіч ездзіў у Крым, шмат падарожнічаў па гэтым экзатычным краі. У Адэсе і Крыме ім былі напісаны бліскучыя цыклы санетаў, у якіх ва ўсёй красе праявілася яго паэтычнае майстэрства.***

20 сакавіка 1974 года ў горадзе Гурзуфе крымскі пісьменнік Леанард Кандрашэнка падараваў мне сваю кнігу "Гурзуф", выдавецтва "Таврія", Сімферопаль, 1972 года, з такім надпісам: "Михасю Малиновскому от автора этой книжки. На память", — подпіс і дата.

Я ніколі і нідзе не саромеўся называць сябе беларусам, пра гэта ўсе ведалі — і на Украіне, і ў Прыбалтыцы, у Забайкаллі і Бурацii, на Далёкім Усходзе, у Ленінградзе і Маскве, Прыволжы... Падкрэслю, што ў мяне з дзетдомаўскіх (!) гадоў захавалася дасюль крымская фотапаштоўка "С Новым, 1958 годом, дорогие ребята", якую мне ўручыла напярэдадні свята піянерважатая 10 атрада дружыны "Лазурная": "Наш любимый "мужик-белорус" — Миша! Поздравляем тебя с Новым годом. Тамара Михайловна. Артек — 2.12. 1957".

Але размову я буду весці не пра сябе, гэта толькі прэлюдыя да першага майго знаёмства на сучаснай тэрыторыі чужыны з імем творцы — генія, ураджэнца маёй Бацькаўшчыны і найвялікшага паэта Польшчы Адама Бернгарда Мікалаевіча Міцкевіча — такое ў яго поўнае імя (24.12.1798 — 26.11.1855). Выдадзены ў Польшчы шматтомнік "Хроніка жыцця і творчасці Міцкевіча" паведамляе: ён, па версіях сведкаў-сучаснікаў, нарадзіўся ці ў карчме Выгада, ці ў карчме Асавец, ці ў карчме Літоўка, ці на хутары Завоссе, ці ў горадзе Навагрудку. Дзве з гэтых мясцін — Выгада і Завоссе — зараз знаходзяцца ў маім Баранавіцкім раёне, а астатнія — у Навагрудскім.

Але вернемся на Крымскі паўвостраў. Прайшоў сорак адзін год з артэкаўскай дзівоснай лагернай пары, калі адзін хлапчук з атрада сагітаваў мяне зрабіць падарожжа да дома, дзе калісьці бывалі Аляксандр Грыбаедаў, Адам Міцкевіч, Васіль Жукоўскі і іншыя славутыя людзі.

Калі Л. Кандрашэнка падараваў кнігу, гэтыя малюнкі дзяцінства ў мяне зноўку ажылі, і я адразу з хваляваннем пачаў гартаць тое, што занатаваў пісьменнік пра Адама Міцкевіча. У 1957 годзе я знаходзіўся ў "Артэку-2", дружына якога мела імя "Лазурная", а дом, у якім бываў Міцкевіч, яшчэ і ў 1974 годзе паўставаў праз дарогу — ў "Алмазнай". Мабыць, ён захаваўся і па сёння.

20 сакавіка 1974 года я чытаў (даецца ў маім перакладзе, акрамя верша): "Першым вядомым нам уладальнікам "Артэка" быў польскі граф Густаў Алізар. Расказваюць, што, праязджаючы аднойчы з Гурзуфа ў Кучук-Ламбат (Кіпарыснае) да свайго знаёмага Барадзіна, Густаў Алізар ля падножжа Аю-Дага звярнуў увагу на квітнеючыя кусты "свідзіны" — жаўтазелю. Час быў даволі позні — снежань месяц, нішто нідзе не квітнела, а тут, у гэтым кутку, ля самага мора — на табе! — вясёлыя залацістыя кветкі. Гэта вельмі зацікавіла графа, і ён на наступны дзень прыдбаў яшчэ некалькі ўчасткаў, і пабудаваў тут дом (тэрыторыя сучаснага лагера "Горны"), назваў свой маёнтак "Кардыятрыкон" (1824). У перакладзе гэта азначае "Вылячэнне сэрца". Гавораць, што Густаў Алізар вельмі перажываў адмову выйсці за яго замуж, атрыманую ад Марыі Раеўскай — малодшай дачкі генерала М.М. Раеўскага. І вось, каб як-небудзь заспакоіць сябе, граф адасобіўся. Густаў Алізар быў паэтам, па сваім настроям блізкім да дзекабрыстаў. З ім сябраваў і гасціў у яго ў 1825 годзе вялікі польскі паэт Адам Міцкевіч. У музеі Адама Міцкевіча, на Рынку Старага Мяста, вісіць вялікая карціна. На ёй мастак Валенты Ваньковіч (Пецярбург, 1828) адлюстраваў натхнёнага паэта на Аю-Дагу, успетым у адным з яго "Крымскіх санетаў":

Взойдя на Аю-Даг и опершись на скалы,
Я созерцать люблю стремительный набег
Волн расходившихся и серебристый снег,
Что окаймляет их гремящие обвалы.
Они, как чудищ рать, с отвагой небывалой
Свирепым приступом берут кремнистый брег,
Но, вдруг, как будто кто дорогу им пресек,
Бегут назад, меча нам жемчуг и кораллы!
Не так ли и тебя — о молодой поэт! —
Порой ввергает страсть и мятежное волненье,
Но меру поднял ты — и, словно бы в ответ,
Страсть убегает прочь в густую мглу забвенья,
Стихами дивными свой устилая след...
Из них тебе венки сплетают поколенья..."

Умяшаюся ў аповяд Леанарда Кандрашэнкі і дам яшчэ пераклад васемнаццатага, апошняга санета — "Аю-Даг" (на рускую мову яго пераўвасобіў В. Левік — ***М.М.***):

Мне любо, Аю-Даг, следить с твоих камней,
Как чёрный вал идёт, клубясь и нарастая,
Обрушится, вскипит и, серебром блистая,
Рассыплет крупный дождь из радужных огней.

Как набежит второй, хлестнёт ещё сильней,
И волны от него, как рыб огромных стая,
Захватят мель и вновь откатятся до края,
Оставив гальку, перл или коралл на ней.

Не так ли, юный бард, любовь грозой летучей
Ворвётся в грудь твою, закроет небо тучей,
Но меру ты берёшь — и вновь лазурь светла.

Не омрачив твой мир, гроза отбушевала,
И только песни нам останутся от шквала —
Венец бессмертия для твоего чела.

Маю я таксама ва ўласнай бібліятэцы цудоўна-зіхатлівы пераклад гэтага санета на родную мову, які натхнёна зрабіла паэтка і вучоная Ірына Багдановіч:

**Аюдаг**

Люблю, зачараваны, Аюдаг, табою,
З вяршыні пазіраць, як чорнымі радамі
Ідуць валы, як потым срэбнымі снягамі
Яны ў мільённых пырсках ззяюць над вадою.

Аб мель ударацца і хваляў чарадою,
Як заваёўнікі, ўладараць берагамі,
Назад вяртаюцца вялізнымі кітамі,
Нясуць каралаў, перлаў скарбы за сабою.

Так шал вірыць наметам віхра агнявога
У сэрцы ўражлівым паэта маладога,
Але адступіць у нябыт яе аблога,

Як толькі струнаў ён задумліва кранецца,
І ліра песнямі чароўна адгукнецца,
З якіх яму вянок бяссмерця запляцецца.

Зноўку кніга Л. Кандрашэнкі ў маіх руках: "Ёсць падставы думаць, што зварот Адама Міцкевіча: "О молодой поэт!" — адрасаваны Алізару. Вершы яму прысвячаў Пушкін. Ведаў яго і Грыбаедаў. Ён заязджаў да яго ў Артэк па дарозе ў Ялту ў 1825 годзе, з галерэі "Кардыятрыкон" цешыўся марскімі краявідамі.

Шчыра скажу, у 1974 годзе мне і маёй тады каханцы Ірыне Саркісян з Арменіі, а тады я адпачываў у знакамітым "Спадарожніку", дзе раней да мяне быў Юрый Гагарын і іншыя славутасці, дазволілі ў былым маёнтку Г. Алізара пабачыць краявід Чорнага мора з таго месца, адкуль у 1825 годзе назіралі і Адам Міцкевіч, і Аляксандр Грыбаедаў..."

Кніжка "Гурзуф" з карцінкамі жыцця і творчасці Адама Міцкевіча змяніла разам са мною 9 гарнізонаў і зараз асталявалася ў Баранавічах, канешне, я вельмі даражу гэтым падарункам!

Кніга Леанарда Кандрашэнкі прадштурхнула мяне шчыльней запатрабаваць самому сабе творчасць Адама Міцкевіча: тады — "Крымскія санеты", а потым, у будучым, і зрабіць падарожжа па ўсіх тых мясцінах Крыма, дзе быў паэт. Адхілюся: тое ж у мяне атрымалася і з таўрычаскімі шляхамі Максіма-Кніжніка, што спарадзіла артыкул "Спакусы Максіма Багдановіча" ("Чырвоная змена", 20 снежня, 1995 г.). Гэтыя словы ўзяты мною ад паэта і вучонага, паходжаннем беларуса з Польшчы, А. Баршчэўскага (А. Барскі): "На пачатку 1825 года Міцкевіч выбраўся на поўдзень Расіі. Наведаў Украіну і Крым, які азваўся ў яго творчасці цудоўнай нізкай вершаў "Крымскія санеты".

А гэтыя радкі належаць Уладзіміру Мархелю і Ірыне Багдановіч, паэтам і вучоным: "У ліпені 1825 года Міцкевіч падахвоціўся на вандроўку па Крымскім паўвостраве ў кампаніі свецкіх людзей. Выкарыстаны як своеасаблівае прыкрыццё расійскага жандармскага генерала графа Вітэ і яго памочнікаў — сышчыка Бошняка, што выдаваў сябе за натураліста, і прыгажуні-графіні Караліны Сабанскай, ад якой зыходзіла запрашэнне, — паэт выканаў ролю, вызначаную яму не Трэцім аддзяленнем паліцыі, а талентам і гісторыяй".

Свае "Крымскія санеты" Адам Міцкевіч прысвячае "Таварышам падарожжа па Крыме". Звернемся яшчэ раз да гэтых асоб, бо, што ні кажы, мабыць, усе яны ўсё зрабілі, каб агонь творчасці Адама Міцкевіча яшчэ больш распаліўся. Вандроўка па Крыме Адамам Міцкевічам была зроблена ў верасні-кастрычніку 1825 года побач і разам з Вітэ — генералам і начальнікам ваенных пасяленняў на поўдні Расіі. Славутая Караліна Сабанская тады была адначасова палюбоўніцай і Вітэ, і Міцкевіча (для цікаўных можам дадаць, што яна была і каханкай Аляксандра Пушкіна — ***М.М.***). Быў у паездцы з імі і брат яе — Генрык Жавускі, які потым стане славутым польскім пісьмен-нікам.

Так што кола "таварышаў" па падарожжы было неаднастайным і неаднародным. І яго вынікам стаў геніяльны творчы выбух. Калі паэт жыў у Маскве, акрамя выдання на польскай мове, "Крымскія санеты" былі перакладзены на рускую — паэтам Казловым. Першы ў "Крымскіх санетах" — верш "Акерманскія стэпы", і што б мы ні пісалі, ні гаварылі, а апошні слупок прывядзём цалкам:

Як слізкай скурай вуж дакнецца зёлкі недзе.
Усё б аддаў, здаецца, у гэтыя хвіліны,
Каб кліч з Літвы пачуць, — ніхто не кліча, едзем.

(Пераклад Ірыны Багдановіч, далей таксама па-беларуску санеты будуць у яе светаадчуванні. — ***М.М.***)

А вось пераклад гэтых жа радкоў з польскай на рускую, які зрабіў Іван Бунін, так-так, лаўрэат Нобелеўскай прэміі:

Как где-то скользский уж, шурша, в бурьян ползёт.
Так ухо звука ждёт, что можно бы расслышать
И зов с Литвы... Но в путь! Никто не позовёт.

Як бачна, Адам Міцкевіч памятаў і ўдалечыні пра сваю Літву, але не тую, якую падманам і хітрыкамі ў Сталіна выпрасілі жэмайты, я маю на ўвазе Віленскі край, а Літву-Наваградчыну, адкуль у яго былі радавыя карані. Шкада, цалкам і глыбока яны не даследаваныя, але нам вядома, што, акрамя беларускай крыві, у яго цякла і татарская, і жыдоўская... Чаму жыдоўская? Бо маці яго, Барбара Маеўская, была жыдоўкай, ды і сам Адам Міцкевіч потым пабраўся з жыдоўкай Цэлінай Шыманоўскай. Па мента-літэце ж паэт быў палякам, бо яшчэ раней спаланізаваліся яго бацькі, хаця калі-некалі ён успамінаў, што з'яўляецца ліцьвінам; пра польскі патрыятызм Адама Міцкевіча найлепш сведчыць яго верш "Да полькі-маці":

О полька-мать! Коль в детском взгляде сына
Надеждами тебе заблещет гений
И ты прочтёшь в нём гордость гражданина —
Отвагу старых польских поколений...
(Пераклад М. Міхайлава.)

Другі, трэці, чацвёрты і пяты санеты маюць назвы "Марская ціша", "Пад ветразямі", "Бура", "Краявід гор са стэпаў Казлова".

Чатыры санеты былі прысвечаны Бахчысараю — "Бахчысарай", "Бахчысарай уначы", "Пахавальня Патоцкай", "Магілы гарэма".

Чытаем:

Калісьці тут цвілі раскоша й пакланенне,
Цяпер Гірэяў дом — бязлюдныя цягліны,
Кахання софы-троны і сталы сябрыны
Займае саранча, вужакі й смерці тхненне.

Тройчы я быў у гэтай былой і велічнай сталіцы крымскіх татараў і, як гаворыцца, столькі ж "прымерваў" паэзію Аляксандра Пушкіна і Адама Міцкевіча да бачанага...

Я гартаю незабыўныя "Крымскія санеты", і перада мной паўстае маляўнічая гісторыя Крыма. Леанард Кандрашэнка напісаў у сваёй кніжцы: "Таўры. Скіфы. Грэкі. Сарматы. Аланы. Готы. Гуны. Генуэзцы. Туркі. Татары. Рускія... Каго толькі ні бачыла гэтая старажытная зямля!"

Як вядома, у 1944 годзе крымскія татары былі гвалтоўна, пад зброяй пазбаўлены сваёй векавечнай Бацькаўшчыны, а потым Крым з-пад юрысдыкцыі Расіі перадалі Украіне. А калісьці татарскі Крым быў кроўна паяднаны з Вялікім княствам Літоўскім, Рускім і Жамойцкім, і шмат нашчадкаў крымскіх татараў дасюль шчасліва жывуць на Беларусі. Пасля Вялікай Айчыннай вайны пасяліўся па службе сярод беларусаў і Ісмаіл Ісмаілавіч Меметаў, сёння мы кажам, што ён выбітны сын Крыма і Беларусі.

Меметаў нарадзіўся на бахчысарайскай зямлі 12 лютага 1916 года ў сям'і Сейтмемета Ісмаіла і Маміне, дачкі Халіля, у сяле Буюк-Каралёз, а пахаваны ў 1997 годзе на беларускай зямлі.

Перабіраю свае фотаздымкі з Бахчысарая, чытаю "Крымскія санеты" і за імі бачу мудрага і высакароднага ваеннага мемуарыста, публіцыста, грамадскага дзеяча, актыўнага і неўтаймоўнага прапагандыста беларускай і крымска-татарскай культуры, мова-знаўцы, славутага ветэрана вайны і працы І.І. Меметава. Таксама ўвачавідку ў гэтай былой сталіцы адчуваю постаць і музыку слоў Адама Міцкевіча. Можа гэта загавырала і яго татарская кроў, усё можа быць!

Замоўк у цішы вечаровай гук ізана,
Закончыў у джамідах верны люд маліцца,
Заружавела сарамліва зараніца,
Бо ночы срэбны князь ідзе к сваёй каханай.

Усяго ў нізцы "Крымскіх санетаў" 18 вершаў, і кожны з іх — цудатворны шэдэўр! Той жа А. Баршчэўскі адзначаў эфект А. Міцкевіча ў Маскве: "Дэкламаваў "Крымскія санеты", і ўсе

былі захоплены. Як бы з недаверам успрымалі, што чужаземец здолеў так арганічна ўспрыняць спецыфіку рускай прыроды".

Сярод маіх знаёмых і сяброў, якія захапляюцца "Крымскімі санетамі", — вучоны-гісторык Ібрагім Барысавіч Канапацкі і зусім нядаўна адыйшоўшы ў лепшы свет знакаміты энцыклапедыст Якаў (Якуб) Адамавіч Якубоўскі.

Помніцца мне ўрывак з санета "Руіны замка ў Балаклаве", які па-польску чытаў мне Якуб Адамавіч:

Te zamęi polamane w zwaliska bez ładu,
Zdobiły cię i strzegły o niewdzięczny Krymie!
Dzisiaj sterczą na górach jak czaszki olbrzymie,
W nich gad mieszka lub człowiek podlejszy od gadu.

***

Руіны замкаў тых, няўдзячны Крым, без ладу
Чарнеюць на гарах, як рэшткі веліканаў,
Былі ж тваёй красой і сцераглі ад ранаў.
Цяпер прытулак тут нягодніку ці гаду.

***

Обломки крепости, чья древняя громада,
Неблагодарный Крым! твой охраняли сон.
Гигантским черепом торчащий бастион,
Где ныне гад живёт и люди хуже гада.

(Пераклад В. Левіна.)

Ён як бы пераносіў гэта на стан нашых адносінаў да сваіх, беларускіх замкаў.

Напісаны пасля падарожжа ў Крым Адамам Міцкевічам і іншыя вершы, сярод іх — славуты "Ястраб":

У небе ястраба хмурына падхапіла,
Занесла ў край далёкі і ў жыццё чужое.

Ён прадбачыў, што лёс занясе яго "у край далёкі і ў жыццё чужое". Так і сталася...

А мы сёння, аглядаючы здабыткі творчасці і само жыццё Адама Міцкевіча, мусім яшчэ раз паўтарыць словы вялікага

француза Віктора Гюго — на польскай мове, роднай для Міцкевіча і ўсіх нас:

"Mówiąc o Mickiewiczu — to znaczy mówiąc o pięknie, sprawiedliwośći i prawdzie, to znaczy mówiąc o prawie, którego on był bojownikiem, o obowiazku — ponieważ był jego bohaterem, o wolnośći, której był opostolem, o wyzwoleniu, które głosił".

**М. Маліноўскі.**

***



Дарагі Ібрагім Барысавіч! Учора, калі накіроўваў Вам "Крымскія санеты", учуў, як адзін хлапец другому сказаў: "Ну што, Мухля, зноў мухлюеш?" Прыйшоў дамоў, а гэты Мухля раптоўна перарос у мяне ў Мухлінскага, бо якраз у гэтым годзе яго 190-годдзе. Так што, як бачыце, Вашыя просьбы перавыканаў яшчэ на 50%. Калі ёсць магчымасць "прыбудаваць" хаця б яшчэ ў якое-небудзь іншае выданне, быў бы вельмі рады.

З шанаваннем,

**Міхась Маліноўскі.**



## ЗІХАЦІЦЬ І СЁННЯ ІМЯ АЛІ МУХЛІНСКАГА
### (Да 190-годдзя з дня нараджэння вучонага)

У маім даволі вялікім кніжным скарбе знайшлося месца і сціпленькай татарскай бібліятэчцы — гэта ўласны набытак і падарункі вельмі добрых, шчырых і прыязных да мяне беларускіх татараў — выдатнага беларускага энцыклапедыста, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР Якуба (Якава) Адамавіча Якубоўскага, які зусім нядаўна, у верасні, адышоў у лепшы свет, вучонага-гісторыка Ібрагіма Барысавіча Канапацкага і ветэрана Вялікай Айчыннай вайны, нябожчыка з 1997 года, Ісмаіла Ісмаілавіча Меметава. Сярод гэтых кніг, брашур, часопісаў і газет ёсць і "Изследованіе о происхожденіи и состояніи литовскихъ татаръ" Орд. Профес. Турецкой Словесности А. Мухлинскаго", праўда, яно зусім без вокладкі.

На першай старонцы яшчэ бачу надрукаваныя словы: "Сатпетербургъ въ типографіи Эдуарда Веймара 1857". Канешне, як і сёння, у тыя часы здараліся памылкі, бо там павінна быць "Санктпетербургъ".

На другой старонцы: "Печатано по определенію Совета Императорскаго Санктпетербургскаго Университета. 4 февраля 1857 года.

Секретарь Совета Загибенинъ"

Гэтая брашура амаль што ўся падкрэслена і перакрэслена мною, бо што і гаварыць, прафесар турэцкай славеснасці — мой зямляк па сённяшняй Гродзенскай вобласці, які сваімі даследаваннямі і здабыткамі ў навуцы, падарожжамі пакінуў вялікі след у XIX стагоддзі ў гісторыі, этнаграфіі Беларусі і Расіі. Яго працы і сёння маюць навуковае і практычнае значэнне. Што да мяне, дык я не аднойчы выкарыстоўваў яго матэрыялы ў сваіх даследаваннях па гісторыі беларускіх татараў, што друкаваліся вельмі добра, у тым ліку і ў часопісе "Беларуская думка". Па энцыклапедычных даведніках ураджэнец Гродзеншчыны праходзіць як вучоны-арыенталіст. А нарадзіўся Алі (Антон Восіпавіч) Мухлінскі на Наваградчыне. Навучаўся ў Маладзечне і Віленскім універсітэце.

У 1998 годзе якраз юбілейныя ўгодкі А. Мухлінскага, ён прыйшоў у свет у 1808 годзе. Вучоны бываў у Турцыі і Егіпце, праявіў сябе як выдатны даследчык гэтых краін.

Наш зямляк надрукаваў рукапісы арабскага географа Ахмеда Эль-Каціба, "Асманскую хрэстаматыю", "Выбар турэцкіх артыкулаў для пачатковага перакладу з граматычным разглядам", актыўна супрацоўнічаў з выдаўцом баронам Брамбеусам (вучоны, пісьменнік, падарожнік, журналіст, дзяржаўны чыноўнік В.І. Сянкоўскі), напісаў шмат артыкулаў для "Энцыклапедычнага слоўніка" і інш., але, на вялікі жаль, навуковая і літаратурная спадчына, сувязі А. Мухлінскага дасюль яшчэ глыбока не вывучаны, яны чакаюць сваіх даследчыкаў.

Як я сёння, калісьці кнігі Алі Мухлінскага гартаў ураджэнец Гродна, наш Максім-Кніжнік. Ды і не мог дапытлівы юнак прайсці міма чалавека родам з Беларусі, які пакінуў вялікія навуковымі здабыткі — шматлікія працы па арыенталістыцы.

У 1911 годзе Максім Багдановіч задумаў вялікую працу па гісторыі беларускай пісьменнасці. Час, да нашай вялікай радасці і задавальнення, захаваў фрагменты руплівасці песняра. У другім томе "Поўнага збору твораў", у якім змешчаны яго мастацкая проза, пераклады, літаратурныя артыкулы, рэцэнзіі і нататкі, чарнавыя накіды, я звярнуў увагу на нарыс "За сто лет" — аб гісторыі беларускай пісьменнасці. У ім усяго тры

старонкі, а вось і ўвесь абзац, дзе згадваецца этнограф, усходазнавец, наш зямляк:

"Гэты краёвы патрыятызм выказаў сябе паміж іншым у вучоных працах, датыкаючых нашай зямлі, за што трэба сказаць дзякуй перш за ўсё Вільненскаму універсітэту, меўшаму шмат якіх бліскучых сіл. З людзей, працаваўшых па беларускай археалогіі, трэба адзначыць брацціяў Тышкевічаў, Пржэздэцкага, Кіркора; з гісторыкаў — Бандтке, Лукашэвіча, Балінскага, Ліпінскага, Нарбута, Ярашэвіча, Даніловіча і інш.; з этнографаў — Ліндэ, Чарноўскую, Шыдлоўскага, Фалютынскага, Мухлінскага (падкрэслена мной. — ***М.М.***), Галэмбёўскага, Рыпінскага, а асабліва Чачота і Зянькевіча; праўда, гэтыя вучоныя, як і ўся тагачасная польская інтэлігенцыя, лічылі Беларусь польскім краем, дый думалі, што развіваючыся, беларусы мусяць прыстаць да польскай культуры, і рана ці позна, а саліюцца-такі з польскім народам; але ўсё ж ткі, гаворачы аб нашым краі, так ці сяк, а памагалі выпрабленню пачаткаў нацыянальна-беларускага самапачуцця між краёвай інтэлігенцыяй, а таксама і лепшаму беларускай мовы".

Як бачна, Максім Багдановіч добра ведаў працы А. Мухлінскага і высока цаніў іх.

Антон Восіпавіч Мухлінскі быў яшчэ і здатным педагогам, ён доўгі час працаваў прафесарам арабскай і турэцкай моў і славеснасці ў універсітэце Санкт-Пецярбурга. Дбайнасцю гэтай вышэйшай навучальнай установы і пабачыла свет "Даследаванне пра паходжанне і стан літоўскіх татараў". Як адзначае энцыклапедычны даведнік "Мысліцелі і асветнікі Беларусі", з гэтай працы "пачалося вывучэнне беларускіх тэкстаў, напісаных арабскім пісьмом".

Брашура А. Мухлінскага пачынаецца так (падаецца ў перакладзе): "Гісторыя Вялікага княства Літоўскага ў свой час падае нам незвычайную падзею. Калі ўся Еўропа ўзброілася і нянавісцю супраць мусульман, — толькі разважлівая палітыка ўладароў літоўскіх з любоўю і гасціннасцю запрашала ў свае ўладанні татараў..."

Што ж, як бачна, не памыліліся тады, бо ў сузор'і знакамітых ураджэнцаў Беларусі зіхаціць і зорка выдатнага сына

Гарадзеншчыны, беларускага татарына Алі Мухлінскага, які шмат зрабіў на нівах Беларусі, Расіі, Турцыі і Егіпта.

Надрукаваў А. Мухлінскі на польской мове ў 1858 годзе і "Слоўнік выразаў, якія прыйшлі ў нашу мову з моў усходніх".

Памёр ён у Варшаве 13 (25).10. 1877 года.

**М. Маліноўскі.**

***

# ПОШТА КВАРТАЛЬНІКА



**Копия — прокурору района**
**От Габидуллина Фарука Кадыровича**

## ЗАЯВЛЕНИЕ

В г. Могилёве с 16 марта 1995 года решением облисполкома за № 6–12, создана религиозная община мусульман. Но община так и не состоялась из-за не состоявшихся избранных председателей: от первого председателя с большими трудностями решением общего собрания от 3.03.1996 г. избавились, вторым избрали Александровича Ибрагима Муратовича, — он оказался не лучше первого. С первого дня на посту председателя общины занял позицию обывателя, ничего не делал и не пытался делать. В конце 1996 года, в декабре месяце, мы решили организовать встречу Нового, 1997 года, собрали с желающих деньги. Место проведения: учебный класс пединститута по Первомайской, 44, где мы, кстати, зарегистрированы. При сборе денег Александрович И.М. обратился к коммерсанту Иманбердиеву Турибеку с просьбой о помощи деньгами. Он не отказал, но взамен денег просил сотрудничества в коммерции. Образно говоря, ему нужна наша печать и штамп. Мне об этом сказал Александрович И.М. Я ему не советовал заводить дружбу с этим коммерсантом и предупредил, что это может плохо кончиться, что это противозаконно. После этого ко мне позвонил коммерсант Иманбердиев Турибек. Он просил у меня согласия на сотрудничество. Я ему отказал. Он меня уговаривал, обещал многое, в частности, сказал, что я буду "богатым, буду много иметь денег", "смогу купить всё, что пожелаю", и добавил, что он даст денег для Минского муфтиата, и всем будет хорошо. Я ему ответил отказом и сказал, что я ничего делать не буду в нарушение финансовых правил. Со мной он говорил потому, что я казначей в общине, без меня такой вопрос решать нельзя, к тому же я ещё и заместитель председателя. По

